20

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 34 (2384) 25 жніўня 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 20 рублёў.

## НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ВЯЛІКАМУ СЫНУ ПАЛЕССЯ

Сёлета 5 жніўня споўнілася 130 гадоў, калі на гласісе (адхоне) Варшаўскай цытадэлі па прыгавору ваеннага палявога суда быў павешаны Рамуальд Траўгут. Імя Р.Траўгута сярод амаль забытых імёнаў гісторыі стаіць асобна. У час паўстання 1863 года ён быў адным з самых актыўных военачальнікаў, а з кастрычніка 1863 года -- кіраўнік нацыянальнага паўстанцкага ўрада.

Бацька Р.Траўгута быў незаможным дваранінам (уласнасці на зямлю не меў), са збяднелага роду Блоцкіх паходзіла і маці -- Алаіза. Людвік Траўгут арандаваў у памешчыка Гофмейстара невялікі маёнтак Шастакова ў Заходняй Беларусі непадалёку ад паўднёвай часткі знакамітай Белавежскай пушчы. Тут 28 студзеня 1826 года і нарадзіўся Рамуальд. Хлопчыку было ўсяго два гады, калі памерла яго маці. Выхавальніцай Рамуальда Траўгута стала бабка Юстына Блоцкая, энергічная, уладарная жанчына. У дзесяць гадоў хлопчык паступіў у Свіслацкую гімназію -- адну з лепшых па тым часе сярэдніх навучальных ўстаноў Гродзенскай губерні. Тут вучыліся такія вядомыя кіраўнікі і ўдзельнікі паўстання 1863 года, як Кастусь Каліноўскі, Уладзімір Малахоўскі, Адольф Белакоз ды іншыя. Свіслацкая гімназія мела значны ўплыў на фарміраванне светапогляду юнага Траўгута. Гімназіст Траўгут праяўляў асаблівую цікавасць да матэматыкі, добра і з ахвотай маляваў. Гэтыя яго схільнасці прадвызначылі выбар прафесіі, калі ў 1842 годзе ён скончыў з сярэбраным медалём гімназію. Было вырашана, што юнак стане ваенным інжынерам. Аднак паступіць у Інжынерную акадэмію ў Пецярбургу Рамуальд не змог, і 18-гадовы сярэбраны медаліст Свіслацкай гімназіі паступае ў Трэці сапёрны батальён, які знаходзіўся на пастаянных кватэрах у мястэчку Жэлехаў, вярстах у васьмідзесяці ад Варшавы. Першае воінскае званне (прапаршчыка) Траўгут атрымаў толькі пасля трох гадоў службы, так што і прафесія афіцэра давалася яму нялёгка.

Шмат цяжкіх ваенных дарог прайшоў гэты негаваркі, вытрыманы афіцэр, прымаў удзел ва Усходняй вайне, удзельнічаў у геранчнай абароне Севастопаля ў час Крымскай вайны, пасля служыў у Харкаве і Пецярбургу.

Пецярбург прынёс яму нямала гора. Адзін за другім памерлі двое малалетніх блізнят, за імі сышла ў магілу бабка Юстына, у снежні 1859 года не стала жонкі Ганны. Ад вялікай дружнай сям'і, што прыехала ў сталіцу імперыі, застаўся толькі прыгнечаны горам удавец з дзвюма дочкамі. Траўгут вырашыў выйсці ў адстаўку і пасяліцца ў Вострave, у маёнтку, які атрымаў у спадчыну пасля смерці брата бабкі Юстыны. Загад аб адстаўцы быў выдадзены 14 ліпеня 1862 года. Рамуальда звольнілі "па хваробе" ў званні падпалкоўніка.

Так пачаўся новы перыяд у жыцці Траўгута. Яго новы шлюб быў, відавочна, прадыктаваны не моцным каханнем, а, перш за ўсё, клопатамі аб дзецях: у дом увайшла жанчына, якая ўсёй душой прывязалася да падчарыц. Другой жонкай Траўгута стала Антаніна Касцюшка, траюрадная пляменніца знакамітага правадыра паўстання. Жыццё пацякло ціха і няспешна. Аднак і ў маёнтак, дзе жыў Траўгут, у студзені 1863 года данеслася вестка: за Бугам паўстанне! Неўзабаве стала вядома пра баі пад Брэстам, пра пераправу паўстанцаў праз Буг, пра бітву ў мястэчку Сямятычы. У лютым атрад Рамана Рагінскага авалодаў Пружанамі, павятовым гарадком Гродзенскай губерні, а затым рушыў праз Белавежскую пушчу ў пінскія балоты. Гэта было ўжо побач.

Спакойнае жыццё скончылася: Траўгут уступіў у рады паўстанцаў. Пасля паражэння, у час следства, ён так тлумачыў свой крок: "Я нікому не раіў падымаць паўстанне, наадварот, як былы ваенны я бачыў усю складанасць барацьбы без арміі і ўзбраення з дзяржавай, вядомай сваёй ваеннай магутнасцю. Калі ўзброенае паўстанне павінна было ўспыхнуць у Кобрынскім павеце Гродзенскай губерні, дзе я жыў, за некалькі дзён да пачатку паўстання да мяне звярнуліся з просьбай прыняць камандаванне.

(Заканчэнне на 7-й стар.).



Падзея не падзея, ды ў аналы гісторыі беларускай дзяржаўнасці яна ўвойдзе. І, магчыма, яшчэ ў кнігу рэкордаў і дзівацтваў Гінеса. Зрэшты, дзівацтвамі мы ўжо не здзівім свет. Дальбог, "я другой такой страны не знаю", дзе грошы былі б нібыта свае, а ўсё ж і не свае, -- толькі "разліковыя білеты нацыянальнага банка", дзе на купюрах было напісана "адзін рубель", а можна было пахваліцца, што маеш у кішэні аж дзесяць рублёў. Дзіўная гэта была арыфметыка: намінальная вартасць беларускіх "зайцоў" вызначалася дабаўленнем нейкага міфічнага нуля, які трэба было заўсёды трымаць у памяці.

І вось адным з першых крокаў новага ўрада Беларусі стала так званая дэнамінацыя нашага рубля. З 20 жніўня мы пачынаем лічыць грошы, як і ўсе нармальныя людзі, без гэтага недарэчнага лішняга нуля, які ўносіў столькі блытаніны. Як заяўляюць афіцыйныя асобы, дэнамінацыя праводзіцца з мэтай спрашчэння разлікаў: намінал разліковага білета і яго рэальнае значэнне прыводзяцца ў адпаведнасць.

## ІНТЭЛЕКТУАЛЬНЫ, ДУХОЎНЫ, ГЕНЕТЫЧНЫ ФОНД БЕЛАРУСІ

## ПАД ПАГРОЗАЙ ВЫРАДЖЭННЯ

# НАСТУПНЫ ПРЫПЫНАК – НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

КАБ ЗРАБІЦЬ лепшым наша жыццё, была створана ў 1989 годзе савецка-дацкая арганізацыя "Next Stop".

У 1991 годзе ў Беларусі зарэгістравана рэспубліканскае недзяржаўнае аб'яднанне моладзі "Next Stop -- New Life" ("Наступны прыпынак -- новае жыццё"), аб'яднаўшы 200 маладых людзей. Яны не абяцалі вырашыць усе праблемы моладзі, аднак сказалі, што могуць адолець некаторыя з іх. Галоўным сваім прынцыпам абвясцілі: "Даваць!" Даваць тое, што патрэбна грамадству, -- сваю маладосць, энергію, талент і сілу для барацьбы за новы свет. Яны не хочуць, каб Беларусь была вядома ў свеце як глухая правінцыя, і на тэлеэкранах у сытых краінах паказвалі толькі жабракоў на вуліцах нашых гарадоў, нахабныя твары бандытаў, прастытутак, зацятасць камуністаў. Новае жыццё -- гэта новыя людзі. У "Next Stop" ёсць упэўненасць, што ў нашай краіне жыве прыгожая моладзь, якая думае па-новаму, умее працаваць і адпачываць. Маладыя людзі, што працуюць у "Next Stop -- New Life" упэўнены, што ў гэтым вялікім і маленькім свеце, імя якому Зямля, моладзь падобная ва ўсіх краінах. Яна хоча піць чыстую ваду, дыхаць свежым паветрам і не баяцца, што заўтра хто-небудзь зробіць замах на яе свабоду.

"Next Stop" працуе па некалькіх напрамках. Гэта -- маладзёжныя абмены, стварэнне экалагічнага цэнтра, культурна-асветніцкая дзейнасць.

Штогод арганізацыя "Next Stop" праводзіць маладзёжныя абмены з Заходняй Еўропай. Мінулым летам праводзіўся экалагічны летнік у Браслаўскім раёне. Моладзь працавала над аднаўленнем старога парку Бяльмонт. "Next Stop" правёў семінар па альтэрнатыўнай энергетыцы, міжнародную канферэнцыю па праблемах адукацыі, па выхаванню дзяцей з рознымі адхіленнямі ў развіцці. У канцы жніўня "Next Stop" праводзіць вялікі міжнародны маладзёжны фестываль "Новыя твары".

Адзін з важнейшых напрамкаў дзейнасці арганізацыі -- гэта праца цэнтра "Рэальны свет", які займаецца дапамогай і рэабілітацыяй наркаманаў. Пра гэта хочацца расказаць больш падрабязна.

### "РЭАЛЬНЫ СВЕТ" БЕЗ НАРКОТЫКАЎ

Праблема наркаманіі для Беларусі даўно перастала быць другараднай. У пачатку 1993 года на ўліку ў Міністэрстве ўнутраных спраў стаялі 1 158 чалавек. Для параўнання: у канцы 80-х гадоў на ўліку ў органах аховы здароўя было 110 наркаманаў. Большая частка іх не ўлічана.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ДЭМАКРАТЫЯ І ЎЛАДА*

## ПРЭЗІДЭНТ ПАДТРЫМАЎ ПРАЕКТ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з кіраўнікамі буйнейшага міжнароднага навуковага праекта "Дэмакратыя і мясцовая ўлада" прафесарамі Гавайскага, Мічыганскага і Пенсільванскага універсітэтаў ЗША Бэці Джэкаб, Самуэлем Эльдэрсфельдам, Генры Цьюнам і іх калегамі з Польшчы, Венгрыі, Швейцарыі, Расіі, Украіны і Беларусі.**

**Гэты праект рэалізуецца ўжо 30 гадоў і ахоплівае каля 30 дзяржаў. Беларусь падключылася да яго рэалізацыі ў 1992 годзе і тады ж правяла першыя даследаванні мясцовых органаў улады рэспублікі. Кіраўнікі праекта "Дэмакратыя і мясцовая ўлада" падзяліліся з Прэзідэнтам планамі па стварэнню адукацыйнага цэнтра з штаб-кватэрай у Мінску і заручыліся яго падтрымкай у гэтым пачынанні.**

*"Мая пазіцыя застаецца ранейшай. Не трэба цешыць сябе пустымі надзеямі і ілюзіямі. Ужо амаль год мы кормім людзей гэтай ідэяй, абяцаннем, што не сёння -- дык заўтра яны памяняюць грошы на расійскія адзін да аднаго -- дзвесці тысяч, мільён... А ў выніку нічога няма. Я гаварыў год назад, што нічога і не будзе. Але нават, калі мы здзейснім немагчымае, гэта нічаму не дапаможа. Справа ж не ў валюце як фізічнай з'яве, а ў яе стабільнасці.*

*Сёння трэба прымаць радыкальныя рашэнні. Яшчэ два гады назад трэба было ўводзіць сваю валюту. Яна надрукавана, гэта не сакрэт ужо. І грошы захоўваюцца на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.*

*Іншая справа, што проста ўвядзенне сваёй валюты без цэлага комплексу ахоўных мер нічога не дасць. Інфляцыя з'есць яе ў адзін год. Але трэба рашацца. Нельга сядзець у балоце, якое засмоктвае ўсё глыбей і глыбей, і думаць, што балота раптам стане цвёрдай дарогай".*

*(З інтэрв'ю "Народнай газеце" Леаніда КОЗІКА, старшыні парламенцкай Камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту).*

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## КОЦІМСЯ...

**У Дзяржаўным камітэце Беларусі па працы і сацыяльнай абароне насельніцтва паведамілі, што ў першым паўгоддзі выпуск прадукцыі прамысловасці ў супаставімых цэнах знізіўся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 31,5 працэнта, вытворчасць тавараў народнага спажывання -- на 17,1 працэнта, нехарчовых тавараў -- на 30,8 працэнта. Пры гэтым зніжэнне прамысловай вытворчасці на дзяржаўных прадпрыемствах адбылося на 29,8 працэнта, на недзяржаўных -- на 37,8 працэнта.**

*СЛАВА НАШЫХ ПРОДКАЎ*

## БІТВА ПАД ОРШАЙ

**8 верасня 1514 года на полі пад Оршай, паміж рэкамі Дняпро і Крапіўна наша беларускае войска на чале з найвышэйшым гетманам Кастусём Астрожскім і ваяводам Юрыем Радзівілам у лютай сечы перамагло ўтрая большае захопніцкае войска Маскоўскага княства.**

**Створаны Арганізацыйны камітэт па святкаванню 480-х угодкаў гэтай векапомнай падзеі. Старшынёй Аргкамітэта абраны прафесар, доктар гістарычных навук, старшыня Згуртавання беларускай шляхты, сябра Сойма БНФ А. Грыцкевіч.**

**Распрацавана праграма святкавання. Адбудзецца ўшанаванне памяці беларускіх рыцараў -- змагароў за незалежнасць Айчыны на месцы бітвы, у Оршы, Мінску, пройдуць выставы, навуковыя чытанні.**

*ЛІТВА -- БЕЛАРУСЬ*

## ЧЫГУНАЧНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

**У Мінску адбыліся беларуска-літоўскія перагаворы па праблеме ўчасткаў чыгуначных пуцей і станцый, размешчаных на тэрыторыі адной з краін, але якія знаходзяцца ў падпарадкаванні чыгункі іншай краіны.**

**Намеснік міністра замежных спраў Беларусі Станіслаў Агурцоў ацаніў вынікі перагавораў як пазітыўныя і паведаміў, што бакі дагаварыліся завяршыць працэс узаемнай перадачы станцый і чыгуначных участкаў да першага верасня бягучага года. Па словах Станіслава Агурцова, у рамках пытання, што абмяркоўвалася на перагаворах, не закранался праблема прыналежнасці адной з краін чыгуначнай станцыі Гадуцішкі. Лёс гэтай станцыі будзе вызначацца ў час перагавораў па дэмаркацыі і дэлімітацыі беларуска-літоўскай дзяржаўнай мяжы, чарговы тур якіх адбудзецца ў канцы жніўня -- пачатку верасня.**

*КАНВЕРСІЯ*

## АМЕРЫКАНЦЫ І ДАПАМОГУЦЬ, І НАВУЧАЦЬ

**Яшчэ 99 парэзаных зваркай танкаў і баявых машын пяхоты папоўнілі спіс выведзеных з баявога строю на Барысаўскім танкарамонтным заводзе ў адпаведнасці з Дагаворам па звычайных узброеных сілах у Еўропе (ЗУСЕ).**

**Пасля ратыфікацыі беларускім парламентам дагавору па ЗУСЕ, падпісанага ў Парыжы яшчэ камандай Міхаіла Гарбачова, Беларусь, пераадольваючы велізарныя эканамічныя цяжкасці, але цвёрда і няўхільна захоўваючы ўмовы пагаднення, ужо давяла колькасць знішчаных браніраваных машын да 2 тысяч.**

**На праведзеных на мінулым тыдні ў час візіту амерыканскай дэлегацыі ў Мінск перагаворах заключана пагадненне, што амерыканскі бок паставіць на завод у Барысаў сучаснае абсталяванне для экалагічна чыстай ліквідацыі рэшткаў бранятэхнікі на суму 5 мільёнаў долараў і навучыць рабоце на ім беларускі персанал.**

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

**На Мінскім авіярамонтным заводзе пачалі рамонт новай авіяцыйнай тэхнікі для краін блізкага замежжа. Днямі на ўзлётна-пасадачную паласу аэрапорта "Мінск-1" прызямліўся самалёт "ЯК-42", што прыбыў з суседняй Літвы. Гэта яшчэ адзін крок да ўмацавання дзелавога і сяброўскага супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі і, вядома, новы фронт работ для мінскіх авіярамонтнікаў.**



**НА ЗДЫМКУ: авіялайнер, які трэба будзе адрамантаваць спецыялістам Мінскага авіярамонтнага завода.**

*РЭХА ВАЙНЫ*



**Чым далей ад той вайны, тым больш яна пра сябе нагадвае сваім смертаносным грузам. Толькі і чуваць: там снарад знайшлі, там нехта на міну натрапіў. Прычым у самых нечаканых месцах. Пракладвалі нядаўна ў Брэсце газаправод і на адной з вуліц горада натрапілі на склад боепрыпасаў, які застаўся ад часоў апошняй вайны. Ці вось яшчэ здарэнне: у цэнтры Віцебска на дне Заходняй Дзвіны майстар завода заточных станкоў Міхаіл Драбышэўскі, які ў гарачы жнівеньскі дзень захацеў выкупацца, знайшоў цэлы склад нямецкіх артылерыйскіх снарадаў. Сапёры, якія займаліся размініраваннем, дасталі з дна ракі 300 снарадаў.**

**НА ЗДЫМКУ: сапёры дастаюць снарады з дна Заходняй Дзвіны ў Віцебску.**

*АБАРОНА ГОДНАСЦІ*

## ШУШКЕВІЧ ПАДАЕ Ў СУД

**Экс-спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч рашыў звярнуцца ў суд з іскавай заявай аб абароне свайго гонару і годнасці. Падставай для гэтага паслужыла "галандская вутка", што была надрукавана ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі напярэдадні выбараў, "Беларусь цяжарная першым прэзідэнтам. Хто ім стане!", у якой былі змешчаны непраўдзівыя звесткі, што закранаді інтарэсы былога кіраўніка парламента. Чакаецца, што ў ролі адказчыка выступіць газета "Советская Белоруссия", адзіная з выданняў, якая не папрасіла прабачэння за публікацыю.**

*ДАЎГІ НАШЫ*

## ЯШЧЭ ПЛАЦЕЖАЗДОЛЬНЫЯ

**Памер цяперашняга дзяржаўнага доўгу Беларусі адпавядае патрабаванням Міжнароднага банка рэканструкцыі і развіцця (МБРР), заявіў Агенцтву фінансавай інфармацыі прадстаўнік Міністэрства знешніх эканамічных сувязей рэспублікі.**

**Па даных на 1 ліпеня, агульны памер знешняга доўгу Беларусі дзяржавам-крэдыторам і міжнародным фінансавым арганізацыям складае 1,4 мільярда долараў. Між тым ліміт доўгу зацверджаны Вярхоўным Саветам рэспублікі на канец 1994 года ў памеры 2 мільярды. Па ацэнках экспертаў міністэрства, гэта сведчыць аб гарантаванай плацежаздольнасці рэспублікі па крэдытных абавязацельствах.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ПЕРАДПРАЕКТНЫЯ работы па будаўніцтву цэлюлозна-папяровага камбіната прадугледжваюць вытворчасць у Беларусі 80 тысяч тон паперы рознага прызначэння ў год. Гэта дазволіць цалкам забяспечыць паперай нашу дзяржаву. Камбінат намячаецца пабудаваць на Віцебшчыне.

У МАГІЛЁЎСКАЙ школе міліцыі (Магілёўскі факультэт Акадэміі міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі) адбыўся першы выпуск студэнтаў. З 225 выпускнікоў толькі 9 вучыліся па кантракту (з Казахстана), астатнія -- грамадзяне Беларусі. Яны будуць працаваць у крымінальным вышуку, аддзелах па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю, дзяржаўнай аўтаінспекцыі.

ДЗЯРЖАЎНЫ ландшафтны заказнік "Чырвоны бор" ствараецца на Віцебшчыне на мяжы Верхнядзвінскага і Расонскага раёнаў. У заказніку ўводзіцца строгі рэжым, толькі ў акрэсленых месцах даецца дазвол нарыхтоўваць сена і пасвіць жывёлу.

СТУДЭНТКА Віцебскага тэхналагічнага інстытута лёгкай прамысловасці Наталля Казак спадабалася італьянцам. На конкурсе "Мілан-94" дэманстраваліся мадэлі строяў, аўтарам якіх яна з'яўляецца. Пасля гэтага адна з італьянскіх фірм зрабіла заказ маладому мадэльеру Наталлі Казак на распрацоўку калекцыі зімовага адзення.

У БРАГІНЕ свабодна і беспакарана прадаюць на рынку вішню, маліну, іншыя ягады, сабраныя з садоў і агародаў, што знаходзяцца ў забароненай зоне. І людзі купляюць заражаную радыенуклідамі садавіну, бо ў адзіным на ўвесь райцэнтр магазіне "Садавіна-гародніна" нічога няма.

# НАСТУПНЫ ПРЫПЫНАК – НОВАЕ ЖЫЦЦЁ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Праз Беларусь вязуць наркотыкі. Хоць яны тут асядаюць у невялікай колькасці (чысты дарагі наркотык не па кішэні айчыннаму наркаману), аднак пэўная колькасць людзей уцягваецца ў наркабізнес. На Беларусі няма медыцынскіх і сацыяльных структур, якія б маглі справіцца з праблемай наркаманіі. У "Next Stop" лічаць, што наркаманія па сваіх разбуральных магчымасцях можа параўнацца толькі з трагедыяй Чарнобыля. Інтэлектуальны, духоўны, генетычны фонд Беларусі знаходзіцца пад пагрозай выраджэння. Асабліва палохае тое, што наркотыкі хутка распаўсюджваюцца сярод падлеткаў. Зварот да праблемы наркаманіі ў "Next Stop" быў абумоўлены яшчэ і асабістымі прычынамі. Ад наступстваў ужывання наркотыкаў памёр Карл Садоўскі, чалавек, які быў адным з аўтараў праекта стварэння арганізацыі, што дапамагала б наркаманам і іх сем'ям. Карл Садоўскі быў вельмі цікавым паэтам. Ягоная смерць прымусіла многіх у "Next Stop" задумацца над праблемай наркаманіі.

У 1993 годзе праграма "Рэальны свет" была падтрымана ў Камісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета Беларусі. Былі нават выдзелены грошы. Праўда, пакуль яны трапілі ў арганізацыю, інфляцыя іх абясцэніла. Тым не менш, праца не спыняецца. Каардынатарам праекта сёння з'яўляецца Кацярына Кацнельсон. Менавіта яна збірае вакол сябе людзей, заклапочаных праблемай наркотыкаў, працуе з моладдзю, якая ўжывае наркотыкі. Пра апошніх Каця ведае шмат, бо яны моцна паўплывалі на яе асабісты лёс.

Разам з ёй працуе Іра Сямёнава. Яна вучылася ў Мінскім музычным вучылішчы. Ёй было каля 20 гадоў, калі яна трапіла на 6 год у турму за наркотыкі. Канец 80-х--пачатак 90-х дзяўчаты называюць змрочным часам. На судзе сведкамі супраць Іры выступала каля 20 чалавек, палову якіх яна не ведала ў твар.

Калі глядзіш на гэтую маладую інтэлігентную жанчыну, немагчыма паверыць, што яна сядзела ў турме сярод злодзеяў. Здзіўляе яе жаданне дапамагчы людзям і сапраўдная заклапочанасць праблемай наркаманіі. Ні ў слове, ні ў поглядзе няма злосці на людзей, якія некалькі год назад адправілі яе ў турму. Наадварот: яна супрацоўнічае з чалавекам, які пасадзіў яе і цяпер займаецца праблемай наркаманіі ў органах міліцыі.

Дарэчы, у турме яе вельмі своеасабліва лячылі ад залежнасці ад наркотыкаў. Па-першае, ёй паставілі дыягназ політаксікаманія (не наркаманія). Па-другое, урач здзіўлена засведчыў, што ў яе арганізм у норме. Па-трэцяе, ён выпісаў ёй полівітаміны. Пасля курсу такога лячэння ўсе вырашылі, што яе выратавалі ад наркатычнай залежнасці.

### НАРКАМАНІЯ — ГЭТА ХВАРОБА

Іра адкрыла мне вельмі страшны аспект праблемы наркаманіі на Беларусі:

-- Для нашай краіны характэрна выкарыстанне "брудных" наркотыкаў, самаробак. Гэта значыць, што наркаман набывае ў аптэцы лекі ад бранхіту ці ад катару, пэўным чынам рыхтуе раствор і ўжывае яго як наркотык. "Брудныя" наркотыкі выклікаюць спецыфічныя і вельмі цяжкія вынікі. Такія наркотыкі павінны асабліва даследавацца.

-- Калі наркотык робіцца ўручную, то пра стэрыльнасць раствору, шпрыца гаварыць не даводзіцца?

-- Добра, калі наркаман карыстаецца толькі сваім шпрыцам. Аднак так адбываецца не заўсёды. Не так даўно быў выпадак. Два хлопцы калоліся адной іголкай. Пазней высветлілася, што і ў аднаго, і ў другога -- СНІД. Але пра гэта яны даведаліся пасля таго, як кожны не раз калоўся адной іголкай з іншымі людзьмі. Такім чынам, яны заразілі шмат людзей, якія, можа, да сённяшняга дня працягваюць распаўсюджваць смяротную інфекцыю. Атрымаўся ланцуг з 50 чалавек, большасць з якіх выявіць немагчыма.

-- Што штурхае да першага ўжывання наркотыка? — пытаюся ў Каці.

-- Гэтаму вельмі шмат прычын. На чалавека ўплывае кола знаёмых, цікавасць да новых адчуванняў. Але пераважная большасць наркаманаў адказваюць на гэтае пытанне коратка: сумна жыць. І адказ гэты больш глыбокі, чым здаецца на першы погляд. Людзям сумна, бо яны не ведаюць, як сябе рэалізаваць. І гэта не проста словы. Да нас прыходзіць моладзь 22--26 гадоў, што вучыцца ў ВНУ. Яны зусім не адкіды грамадства, а цікавыя і разумныя людзі. Проста па нейкіх прычынах не могуць знайсці сябе ў нашым свеце. Яны часцей за ўсё эксперыментатары. Эксперыменты робяць на сабе ў першую чаргу.

-- А грамадства іх эксперыменты называе злачынствамі...

-- Цяпер трошкі іншае стаўленне да наркаманаў з боку міліцыі. Іх усё ж такі імкнуцца лячыць, а не саджаць у турму (калі паралельна няма іншых злачынстваў). Аднак грамадская думка па-ранейшаму бачыць у наркамане злачынцу. Я раблю спробу наладзіць кантакты з медыцынскімі ўстановамі, каб пры неабходнасці накіроўваць туды тых, хто хоча лячыцца. Аднак часцей за ўсё я чую ад урачоў выраз "барацьба з наркаманамі". Хоць менавіта ўрачы ведаюць лепш за іншых, што залежнасць ад наркотыка вызначаецца перш за ўсё генетычнымі і біяхімічнымі фактарамі. Змагацца трэба не з наркаманамі, а з наркабізнесам. Калі я чую, як чыноўнік пагардліва заяўляе, што ў нашай краіне шмат праблем з нармальнымі людзьмі і няма калі займацца падонкамі, я магу сказаць толькі адно: наркаманы ў большасці сваёй -- такія ж людзі, як усе, толькі з больш складанай псіхікай. Іх трэба лячыць. Грамадскасць павінна ўсвядоміць гэта.

-- Іра, прыклад вашага лячэння сведчыць пра тое, што моцную залежнасць ад наркотыкаў на Беларусі не лечаць...

-- Гэта не зусім так. Ёсць прэпараты, якія дапамагаюць пазбавіцца ад залежнасці. Аднак іх сапраўды няшмат. За мяжой існуюць больш эфектыўныя медыкаменты. Па беднасці сваёй нашы бальніцы не толькі не маюць іх, але ўрачы нават і назваў іх не ведаюць. Праўда, у горадзе ёсць некалькі сур'ёзных урачоўпсіхатэрапеўтаў, якія шукаюць лекі, новыя сродкі рэабілітацыі.

Дарэчы, у замежжы да наркаманіі наогул іншае стаўленне. Быць наркаманам ці не -- там праблема ўласнага выбару. Часта за наркаманам сочыць урач, рэкамендуе дозу, больш бяспечны наркотык. Для нас такое непрымальна. У нашай краіне трэба знаходзіць сродкі лячэння і рэабілітацыі.

-- А што робіць "Рэальны свет"?

-- Для пачатку мы прапаноўваем наркаманам нармальныя чалавечыя адносіны на роўных. Сэнс нашай працы не ў тым, каб прымусіць чалавека кінуць наркотык. Мы хацелі б прапанаваць яму альтэрнатыву -- іншае кола знаёмых, нейкія справы. Мы не заўсёды можам пазбавіць чалавека ад наркотыка, але можам адцягнуць увагу хворага ад яго. І чалавек будзе ўжываць наркотыкі менш, што ўжо станоўчы фактар. Мы прапаноўваем тым, хто звяртаецца да нас, паехаць папрацаваць у летнік, удзельнічаць у нашым фестывалі, у выстаўках, канцэртах. Тым жа, хто зразумеў, што трэба лячыцца ад наркотыкаў, мы рэкамендуем добрага ўрача. У будучыні вельмі хацелася б арганізаваць даведачны цэнтр для людзей, якім патрэбна ананімная дапамога, кансультацыя па праблемах, звязаных з наркаманіяй.

Што цэнтр "Рэальны свет" патрэбны -- відавочна. Наркотык -- гэта зло, а наркаманія -- праблема. Гэта скалечаныя лёсы, гэта смерць. І вельмі добра, што нехта яшчэ, акрамя медыкаў і міліцыі, займаецца гэтай праблемай.

**Алена СПАСЮК.**



## УДЗЯЧНАСЦЬ НАРОДА ІЗРАІЛЯ

**Ад фашысцкага генацыду ў гады другой сусветнай вайны загінула трэцяя частка ўсіх яўрэяў. Але спісы гэтых ахвяр маглі быць большымі, калі б не мужнасць і сапраўдны подзвіг людзей іншых нацыянальнасцей, якія, рызыкуючы жыццём, ратавалі яўрэяў ад немінучай смерці. Нямала такіх было ў Беларусі. Да іх ліку належыць і 90-гадовая жыхарка вёскі Шчадрын Жлобінскага раёна Марыя Пабалавец. Яна і стала віноўніцай урачыстага мерапрыемства, якое адбылося ў Жлобіне.**

**Перадаць падзяку Марыі Сцяпанаўне ад яўрэйскага народа за здзейснены ў 1942 годзе мужны ўчынак -- выратаванне жыцця яўрэйскага хлопчыка, уручыць ёй высокую ўзнагароду -- медаль "Праведнік народаў свету" — прыехаў Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь пан Эліяху Валк.**

**-- Мы помнім, што беларусы, ахвяруючы сабой, ратавалі жыцці яўрэяў, -- сказаў пан Валк, -- Марыі Сцяпанаўне Пабалавец, сціплай беларускай жанчыне, мы сёння перадаём вялікую падзяку ад народа Ізраіля і ўручаем медаль і Ганаровы дыплом.**

**З высокай узнагародай Марыю Сцяпанаўну таксама павіншавалі намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкома А.Ярчук, старшыня Жлобінскага райсавета дэпутатаў С.Котаў, старшыня Гомельскага яўрэйскага рэлігійна-культурнага аб'яднання "Агдут" (Адзінства) М.Гольдштэйн.**

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: пан Эліяху ВАЛК і яго жонка, супрацоўніца Ізраільскага пасольства ў Мінску Авіва ВАЛК уручаюць М.ПАБАЛАВЕЦ медаль "Праведнік народаў свету".**

**Фота А.ШАЙНОВА.**

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

## ЗЭКАНОМІМ НА РУБЕЛЬ, СТРАЦІМ НА ТЫСЯЧУ

**Сюрпрызы прыроды на Беларусі непрадказальныя: то ліўні, то засуха, то маразы на парозе лета з'явяцца. Вынікі ад гэтых напасцяў вельмі цяжкія.**

**У 1992 годзе нашу рэспубліку напаткала засуха. Тысячы тон недабралі мы збажыны, бульбы, не нарыхтавалі кармоў для жывёлы. Праз год новае выпрабаванне: спачатку засуха, потым ліўневыя дажджы. На добрай трэці ўсёй тэрыторыі зноў не ўдалося сабраць ні бульбы, ні збажыны.**

**Найбольш цяжкім выдаўся сёлетні год. Нібы нейкае праклянцце абрынулася на беларускую зямлю. З канца чэрвеня амаль да пачатку жніўня на большасці тэрыторыі не выпала, бадай, ніводнай кроплі дажджу, ртутны слупок не апускаўся ўдзень ніжэй 30 градусаў па Цэльсію. Такая спякота прывяла да таго, што перасохлі калодзежы, мялелі рэчкі, высыхалі балоты, на якіх некалі касілі добрыя травы. Але самай страшнай карай боскай сталі пажары.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з галоўным спецыялістам МУСа аддзела дзяржаўнага пажарнага нагляду Рэспублікі Беларусь падпалкоўнікам Уладзімірам КАНДРАШОНКАМ і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.**

*-- Уладзімір Міхайлавіч! Ці ёсць у вашым упраўленні звесткі, колькі пажараў адбылося сёлета ў рэспубліцы? Якія страты яны прынеслі?*

-- Сёлетні год адзін з рэкордных па колькасці пажараў, хаця яшчэ і не маем дакладных даных. Што ж тычыцца страт, то іх пакуль і падлічыць немагчыма. Хоць прыблізныя лічбы я магу прывесці.

На сённяшні дзень зарэгістравана 1 605 лясных пажараў, 633 пажары на тарфяніках. Асабліва многа пажараў прыпадае на Брэсцкую і Гродзенскую вобласці. Страты, нанесеныя агнём, можна ацаніць у адзін мільярд долараў.

*— Гараць лясы, тарфянікі. Хіба ж не навучыў нас дзевяноста другі год, калі было аналагічныя становішча? Хто тут вінаваты? Няўжо зноў будзем спасылацца толькі на засуху?*

-- Засуха, вядома, сваю адмоўную ролю тут адыграла. Але ў большасці выпадкаў вінаваты мы самі. Аналізуем прычыны пажараў і высвятляецца, што нехта кінуў непатушаны акурак на лясной сцяжынцы, нехта забыў слоік вясной ля бяроз, калі збіраў сок -- шкло і адыграла ролю лінзы, механізатар праехаў уздоўж лесу на трактары, у якім сапсаваны глушыцель.

Яшчэ вінаваты наша бяздушнасць, абыякавасць. Паглядзіце, што робіцца вакол Мінска ці ў самой сталіцы: згарэлая трава і дрэвы. І гэта там, дзе адпачывалі людзі. Дзеці спецыяльна падпальвалі траву, а дарослыя глядзелі на гэтыя "забавы" і маўчалі. Не скора зноў вырасце трава, не гавару пра дрэвы ўжо.

*— А можа і ў самой пажарнай службе штосьці не так?*

-- Заўвага вельмі слушная. Цяпер ідзе скарачэнне пажарных службаў. Возьмем, для прыкладу, Міністэрства лясной гаспадаркі. Тут бы ўмацоўваць тэхнічную базу, павялічваць колькасць пажарных. Дык робіцца наадварот. Правялі скарачэнне штатаў, а на сродкі, што вызваліліся, пачалі будаваць лесапілкі, нарыхтоўваць будматэрыялы і прадаваць у Польшчу за долары. А калі здаралася тушыць агонь, то не было каму. Вось і атрымлівалася, што зэканомілі ці зарабілі на рубель, а страты панеслі на тысячы.

*— Добра вядома, Уладзімір Міхайлавіч, што боты павінен шыць шавец, але якім бы вялікім ні быў штат пажарных рэспублікі, ім адным цяжка справіцца з агнём. Ці адчуваеце вы дапамогу?*

-- Не заўжды. На Гомельшчыне, напрыклад, мясцовыя ўлады прынялі пастанову аб забароне наведання лесу ў спякотныя дні. На Мазыршчыне за непатушаны акурак у лесе спаганялі з курыльшчыкаў штраф, штрафавалі і тых бацькоў, чые дзеці падпальвалі траву... Але гэта -- паўмеры. Што такое штраф у дзве-тры мінімальныя зарплаты ў параўнанні з колькасцю згарэлага лесу і нават поля са збажынай!

У многіх жа выпадках дапамогі пажарныя могуць і не дачакацца. Нядаўна гарэў лес у Маладзечанскім раёне. Папрасілі пажарныя і ляснік мясцовага старшыню калгаса дапамагчы справіцца з агнём. А ў адказ пачулі: "У мяне няма бензіну, каб даставіць на машыне людзей. Ды і няма калі тушыць -- ідзе ўборка".

*— Наколькі я ведаю, не ўсе падраздзяленні пажарных службаў рэспублікі маюць магчымасць дапамагчы калегам у крытычных сітуацыях?*

-- Што праўда, то праўда. Вазьміце непасрэдна нас -- Дзяржаўнае ўпраўленне ваенізаванай пажарнай службы. Паступае сігнал, што за некалькі дзесяткаў кіламетраў успыхнуў агонь, патрабуецца дапамога. А мы выехаць не можам, бо звязаны дагаворамі з прадпрыемствамі, ваеннымі часцямі і іншымі арганізацыямі, таму і не пакідаем межы горада, бо крытычная сітуацыя можа здарыцца на падлеглых нам тэрыторыях.

*-- Сітуацыя і сапраўды даволі дзіўная. Не хапае ў вас таксама тэхнікі, гаручага, людзей і ўзаемавыручкі. Пры такіх абставінах не тое, што ў спякоту, як сёлета, а і ў звычайнае лета не справіцца з пажарамі.*

-- Разумейце, як хочаце. Але такое становішча спраў не задавальняе і нас. Мы са сваімі прапановамі наконт навядзення належнага парадку ў пажарнай службе ўжо звярнуліся да нашага ўрада.

*-- Застаецца спадзявацца, што ўсё зменіцца да лепшага.*

-- Спадзяемся на гэта і мы.

**Гутарку вёў Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

## З ГІСТОРЫІ БЕЖАНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

# БЕЛАРУСЫ НА АБШАРАХ РАСІІ

На жаль, ягоная біяграфія дагэтуль абсалютна не распрацаваная і артыкул у "Беларускай крыніцы" -- адзінае пакуль што сведчанне пра яго як пра свядомага беларуса і дзеяча нацыянальнага руху.

У Мінску на цэнтральнай алеі Вайсковых могілкаў захавалася ягоная магіла, а на ёй помнік з барэльефам -- сёння гэта адзіны матэрыяльны напамін пра арганізацыю беларусаў і ўкраінцаў у сталіцы Алтая -- Барнауле.

### "БЕЛАРУСКАЯ ХАТКА"

**(АРОЛ)**

У расійскі губернскі горад Арол бежанства закінула колькіх вядомых беларускіх дзеячаў. У кнізе Юры Туронка "Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі" (Варшава, 1992) чытаем: "У верасні 1915 г. Іваноўскі прыехаў у Арол, куды было эвакуяванае віленскае сельскагаспадарчае таварыства. Ягонымі стараннямі да гэтай групы ўцекачоў далучылася колькі віленскіх беларусаў, у тым ліку выдавецкі дзеяч Янка Купала і архітэктар Лявон Дубейкаўскі. У Арле, аднак, не было ўмоваў для развіцця грамадскай дзейнасці, да таго ж кола эвакуяваных сюды беларускіх дзеячаў пачало звужацца. Неўзабаве Купала з'ехаў у Маскву, а Іваноўскі з Дубейкаўскім пачалі рыхтавацца да пярэбараў у Петраград. Адзіным значным следам Іваноўскага ў Арле была заснаваная ім фабрыка па вытворчасці гранат для расейскай арміі".

Кветка Вітан у кнізе пра свайго мужа "Лявон Вітан-Дубейкаўскі. Да 85 угодкаў нараджэньня" (Нью-Йорк, 1954) падала пра Арол трохі іншыя звесткі: "Далей у пачатку 1917 г. ён (Лявон В.-Д. -- **Ю.В.**) ставіць фабрыку ралейных снасьцяў ув Арле Віленскаму Ралейнаму Таварыству, эвакуяванаму зь Вільні ў 1915 г., на чале якога стаяў проф. В.Іваноўскі. Тут ув Арле Л.Д., проф. В.Іваноўскі і яшчэ колькі Беларусаў, посьле адрачэньня цара Міколы II, плянуюць адбудову самастойнасьці Беларусі. Лявон Д. у гэтым часе, як сьвядомы Беларус, прылучаецца да беларускае працы...".

Першая звестка пра арганізаваны беларускі рух у горадзе датуецца вясной 1917 года. Так, у N 1 ад 28 мая 1917 года ў мінскай газеце "Вольная Беларусь" было змешчана паведамленне з Арла пад подпісам Маркевіча, Ждановіча, Грабоўскага і Іваноўскага: "Арлоўскія ўцякачы-беларусы, зышоўшыся на першай вольнай вечарынцы, горача вітаем беларускі зьезд". Згаданы з'езд прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных партый і арганізацый адбыўся ў Мінску 25--26 сакавіка 1917 года. Падтрыманне арлоўскімі ўцекачамі гэтага з'езда, які нават сучасныя гісторыкі называюць "либерально-помещицким" (зб. "Октябрь 1917 и судьбы политической оппозиции", ч.2, Гомель, 1993, с.84), характарызуе іх сацыяльна-палітычны выбар.

Аднак фармальна беларуская арганізацыя ў Арле была заснаваная на агульным сходзе толькі 29 кастрычніка 1917 года. Яна атрымала назву -- Таварыства беларусаў у Арле "Беларуская Хатка". У яе склад увайшлі беларусы-ўцекачы, якія жылі не толькі ў самім горадзе, але і з наваколля. "Хатка" мела наступныя статутныя задачы: а) аказанне культурна-асветнай і матэрыяльнай дапамогі ўцекачам-беларусам, б) абарона іх інтарэсаў, в) абарона ідэі аўтаноміі Беларусі ў яе этнаграфічных межах, г) рэгістрацыя беларусаў-уцекачоў. Дарэчы, паводле дакументаў "Хаткі", рэгістрацыя ўцекачоў вялася ўжо напярэдадні яе афіцыйнага заснавання.

Удзельнікі Устаноўчага сходу гэтаксама выказалі сваю падтрымку Вялікай Беларускай Радзе, якая працавала ў Мінску ў ролі прадстаўніцтва ўсіх плыняў беларускага нацыянальнага руху. Паводле зацверджанага сходам статута, вышэйшым органам таварыства прызнаваўся агульны сход, выканаўчымі -- рада і праўленне. Апошняе складалася з старшыні, таварыша старшыні і скарбніка.

Невядома, у якіх варунках і чым канкрэтна займалася "Беларуская Хатка". Але ёсць падставы для сцвярджэння, што беларускі рух у горадзе быў досыць актыўны ў сэнсе культурна-нацыянальным і палітычным. Абвяшчэнне 25 сакавіка 1918 года незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі знайшло сваіх прыхільнікаў. Неўзабаве ў Арле нават узнікла консульства БНР. Існавала ў горадзе таксама аддзяленне Беларускай Народнай Грамады.

З вясны 1918 года Белнацком распачаў кампанію падпарадкавання сабе ўсіх бежанскіх арганізацый. Асабліва непакоіла яго пашырэнне сярод бежанцаў "незалежніцкіх" і небальшавіцкіх настрояў. Так, увесну 1918 года консульствы БНР існавалі фактычна ўжо ў Маскве, Арле і Калузе (газ. "Вольная Беларусь", 5 мая 1918 г.). Кіеўская газета "Белорусское эхо" ў N 1 ад 30 мая 1918 года паведамляе пра існаванне аддзяленняў Беларускай Народнай Грамады ў Калузе, Туле, Ніжнім Ноўгарадзе і характарызавала агульнае становішча беларускіх арганізацый у РСФСР наступным чынам: "в связи с гонениями, воздвигаемыми большевиками против национальных движений вообще... положение этих организаций незавидное".

Ідэалагічны ціск Белнацком ажыццяўляў з дапамогай сваіх мясцовых эмісараў і перыферыйных аддзяленняў. Для ўсіх беларускіх арганізацый на тэрыторыі РСФСР ад пачатку лета 1918 года фармальным правам на існаванне стала рэгістрацыя ў Белнацкоме, сэнс якой быў у праверцы сацыяльнага складу і палітычнай платформы. У чэрвені "Беларуская Хатка" звярнулася ў Белнацком з просьбай аб рэгістрацыі, але не атрымала яе. Неўзабаве бальшавікі распачалі маштабную палітыку т.зв. "чырвонага тэрору" супраць сваіх палітычных і ідэалагічных апанентаў. У сваю чаргу Белнацком ініцыяваў рэпрэсіі супраць некаторых беларускіх арганізацый на тэрыторыі РСФСР, асабліва прыхільных да БНР. 15 кастрычніка 1918 года калегія Белнацкома заслухала адмысловы даклад А.Усціловіча "О всевозможных Белорусских организациях, существующих на территории Советской России". Па дакладзе была прынята пастанова: "Все Бел. организации, находящиеся на территории Сов. Республики, со дня опубликования сего постановления в печати обязаны зарегистрироваться в Белорусском Национальном Комитете, иначе таковые организации будут считаться как контрреволюционные гнезда, с которыми будет поступлено по всей строгости революционного закона".

Пасля прыняцця гэтай пастановы Белнацком канчаткова адмовіўся рэгістраваць "Беларускую Хатку" ў Арле і звярнуўся да мясцовых уладаў з просьбай не дапусціць ейнага існавання, што тыя, праўдападобна, і зрабілі.

Відаць, многія сябры "Хаткі" патрапілі своечасова выехаць з Арла. Увосень 1918 года Вацлаў Іваноўскі быў актыўным дзеячам БНР у Мінску. Нейкі Маркевіч актыўна друкаваўся ў 20-х гадах у друку Заходняй Беларусі.

* * *

Напрыканцы 1918 года спынілася існаванне большасці беларускіх арганізацый. Рух, які быў на пачатку 1918 года, увайшоў у перыяд заняпаду. Часткова паслабіла яго масавая рээміграцыя ўлетку, але вызначальным у гэтым прагнозе сталі рэпрэсіўныя захады Белнацкома і мясцовых савецкіх органаў.

У месцах ранейшай актыўнай дзейнасці ўцекачоў-беларусаў засталіся адно далёкія ад ідэі адраджэння бюракраты-службоўцы -- эмісары Белнацкома або малыя па колькасці сяброў Беларускія секцыі пры мясцовых камітэтах РКП(б). І першыя і другія звычайна цураліся нацыянальнай дзейнасці ды займаліся найчасцей палітыканствам, чым нямала спрычыніліся да знікнення беларускага бежанскага руху як з'явы на працягу наступных 1919--1920 гадоў. Выключэннем можна лічыць, бадай, толькі Саратаў, дзе беларускае культурна-нацыянальнае жыццё, наадварот, прыкметна ажывілася.

Нованароджаны савецкі таталітарызм у 1918 годзе здушыў галінку абуджанай нацыі -- беларускае бежанства.

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 30—33.**

## ХРОНІКА МАБ

### РОДАМ СА СЛОНІМШЧЫНЫ

У фонды музейнай экспазіцыі "Беларусы ў сьвеце" (цэнтр імя Ф. Скарыны) паступілі машынапісныя ўспаміны Міхала Гедройця. Нарадзіўся ён у 1929 годзе ў маёнтку Лобзава, што каля Дзярэчына, на Слонімшчыне. Разам з маці быў у 1940 годзе дэпартаваны ў Сібір. Бацьку ж, Тадэвуша Гедройця, расстралялі ў чэрвені 1941 года ляЧэрвеня. Потым -- выезд у Іран з арміяй Андэрса, вучоба ў Лонданскім універсітэце, праца ў галіне канструявання і эксплуатацыі авіятэхнікі. У апошні час М. Гедройць заняўся гісторыяй хрысціянства ў Беларусі і Літве, апублікаваў на гэтую тэму некалькі грунтоўных прац.

Ва ўспамінах гаворыцца пра службовую кар'еру бацькі ў Слоніме, яго прыязныя стасункі з беларускімі сялянамі, сімпатыю да беларускага нацыянальнага руху, пакутніцкую смерць пад Чэрвенем. У 50-ю яе гадавіну М. Гедройць пабываў там (ён быў назіральнікам ад Вялікабрытаніі на нашых выбарах), устанавіў памятны крыж, выступіў з прамовай.

### НАШЧАДКІ АЛЯКСАНДРА ЕЛЬСКАГА

І яшчэ адзін замежны госць наведаў экспазіцыю "Беларусы ў сьвеце", пакінуў запіс у кнізе ганаровых гасцей. Гэта -- прадстаўнік Сусветнага банка ў Нью-Йорку, які займаецца фінансаваннем праектаў, звязаных са зберажэннем водных рэсурсаў, інжынер Януш Кіндлер. У Беларусь яго прывяла трывога за лёс Палесся: мінулагодняя паводка сёлета тут змянілася засухай. Значыць, нешта не так з меліярацыйнай сістэмай, значыць недастаткова ўлічаны вопыт пінскага эксперыментатара Бутрымовіча ў XVIII стагоддзі і генерала Жылінскага ў XIX стагоддзі. Побач з сучаснымі звесткамі трэба выкарыстоўваць гістарычныя крыніцы...

Да беларускіх гуманітарыяў Я. Кіндлера прывяла яшчэ адна акалічнасць. Яго жонка з'яўляецца праўнучкай беларускага пісьменніка Аляксандра Ельскага і ўнучкай беларускага этнографа Зыгмунта Глогера (зяця Ельскага). У сямейным архіве Кіндлераў захоўваецца многа матэрыялаў, звязаных з Беларуссю. У час сустрэчы ішла гаворка пра тое, што найлепшае ім месца -- у фондах музея "Беларусы ў сьвеце".

### ЛІСТ З НЕВЕЛЯ

Ад адміністрацыі Невельскага раёна і Музея гісторыі горада Невеля атрыманы ліст, у якім выказваецца прапанова правесці восеню 1994 года ў гэтым старажытным горадзе, што знаходзіцца на беларуска-рускім этнічным пагранічча, Дні беларускай культуры, у тым ліку чытанні, прысвечаныя паэту Яну Баршчэўскаму (да 200-годдзя яго нараджэння).

За падрыхтоўку чытанняў узяліся мінскія, віцебскія, пецярбургскія і варшаўскія беларусісты.

**Алеся БЕЛАВУСАВА,**
**рэферэнт МАБ.**

## З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ЦІ ЗДЗЕЙСНЯЦЦА ПЛАНЫ?

Беларускі музей — так мы называем пабудову Беларускага грамадска-культурнага таварыства, якую ад пачатку ахвярна вядзе Грамадскі камітэт у Гайнаўцы на чале з Канстанцінам Майсеням. Ад апошняга справаздачна-выбарчага яго сходу, які адбыўся 27 сакавіка гэтага года, афіцыйна называецца "Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы". Успомнім, што будаўніцтва аб'екта пачалося ад прыстасавання пакінутага ў цэнтры горада старога цэха мясцовага дрэваапрацоўчага камбіната, агульнай плошчай 860 квадратных метраў. Праца была закончана ў 1989 годзе, і адразу арганізавана некалькі выставак, сярод якіх да найвялікшых адносяцца экспазіцыя мастакоў з Рэспублікі Беларусь пад назвай "Жыве Беларусь" і этнаграфічная выстаўка. Яна грунтуецца на мясцовых экспанатах і захоўваецца да сённяшніх дзён. Мноства наведвальнікаў -- сведчанне поспеху выставак і добрых перспектыў у будучыні.

Але жыццё ўнесла свае змены ў раней прадугледжаныя планы ладжання экспазіцый і пабудовы аб'екта. Пры дапамозе ўладаў, дзякуючы фінансавым ахвяраванням грамадзян Польшчы і замежжа, мелі хутка закончыцца дабудовы новых дзвюх асноўных частак музея, плошча якіх па праекту складае каля 2 000 квадратных метраў. Пад першую з іх закладзены фундамент у 1989 годзе, гэта значыць у годзе найвялікшых пераўтварэнняў грамадскага і эканамічнага ладу ў нашай краіне. Ніхто не мог прадбачыць, што асноўныя ахвяравальнікі, якімі былі дзяржаўныя і кааператыўныя прадпрыемствы, збяднеюць або перастануць існаваць. Хутка выявілася, што мясцовыя прыватныя спонсары, сярод якіх дамінавалі сяляне і пенсіянеры, таксама не змаглі выканаць узятыя на сябе раней абавязкі. З незразумелых для нас прычын зменшыліся ахвяраванні з доларавай зоны. Устрымаліся ад ахвяраванняў члены мясцовых беларускіх міні-арганізацый. Стварыліся крытычныя абставіны, выхадам з якіх магло быць толькі часовае ўстрыманне пабудовы аб'екта, каб не ахвярнасць праўлення Грамадскага камітэта пабудовы музея і дапамога Міністэрства культуры і мастацтва Польшчы, а таксама многіх устаноў у Рэспубліцы Беларусь. Згаданае міністэрства пачало выдзяляць невялікія датацыі, якіх сціпла хапае на фінансаванне будаўніцтва музея, установы Беларусі праз таварыства "Радзіма" забяспечваюць будаўнічымі матэрыяламі і абсталяваннем, а ўсе бягучыя выдаткаванні (энергетычныя, утрымліванне экспазіцыі, кадравыя і іншыя) пакрывае Камітэт пабудовы з уласных даходаў і невялікіх ахвяраванняў насельніцтва.

Зараз заканчваецца будаўніцтва другой, найбольш рэпрэзентатыўнай часткі музея. Аддадзены ў эксплуатацыю кіназала, чытальня, гатэльная частка на 20 месцаў, адміністрацыйныя памяшканні для працаўнікоў музея і праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ.

У 1991 годзе пачалося будаўніцтва двухпавярховай, апошняй часткі музейнага аб'екта. У гэтай частцы прадугледжана шэсць выставачных залаў агульнай плошчай каля 800 квадратных метраў. Яе заканчэнне стрымлівае ізноў жа недахоп фінансавых сродкаў. Ацэньваючы сучасныя магчымасці, можна лічыць, што яна будзе ўведзена ў эксплуатацыю ў 1996 годзе, а загаспадараванне панадворка -- яшчэ крыху пазней.

Па меры будаўніцтва аб'екта акрэсліваецца і больш рэальная канцэпцыя яго выкарыстання. Будзе ён мець музейную частку з пастаянна дзеючымі і часовымі выстаўкамі. Пастаянныя размесцяцца ў гістарычнай зале і этнаграфічнай, аснову якой складуць мясцовыя экспанаты. На тэму іншых працягваюцца яшчэ дыскусіі. Экспазіцыі павінны служыць таксама школьнікам, у навучанні якіх дапускаецца рэгіянальная тэматыка.

Больш складаную функцыю музей будзе мець як беларускі рэгіянальны асяродак культуры. Аб'ект знаходзіцца ў цэнтры горада, мяжуе з чыгуначным вакзалам і пляцоўкамі гарадскога гандлю ды галоўнай вуліцай, якая з'яўляецца адначасова асноўнай турыстычнай магістраллю ў Белавежу. Можна прадугледжваць інтэнсіўны асабовы рух. Ці патрапіць кіраўніцтва асяродка яго належна выкарыстаць -- пакажа недалёкая будучыня.

БГКТ хацела б тут стварыць беларускі інстытут культуры, мець бібліятэку, выдавецтва, архіў, праводзіць канферэнцыі. Здзяйсненне такіх планаў будзе магчымым тады, калі асяродак пачне атрымліваць хаця б сціплыя дзяржаўныя датацыі або знойдзе багатага спонсара. Дагэтуляшняя рэальнасць складвалася не на карысць арганізавання згаданага інстытута. Але музей і асяродак беларускай культуры становяцца рэальнасцю.

**Уладзімір ЮЗВЮК.**

129

Беларуская літаратура другой паловы XIX стагоддзя ўзбагацілася і такімі імёнамі, як Адам Гурыновіч, Казімір Кастравіцкі (Карусь Каганец), Альгерд Абуховіч (першы нацыянальны байкапісец), Фелікс Тапчэўскі. Усе яны сваёй творчасцю былі цесна звязаны з патрэбамі сялянскага жыцця, рыхтавалі беларускае грамадства да ўспрыняцця нацыянальнай ідэі і змагання за лепшую долю. Маладая беларуская паэзія па сваёй сутнасці мела рэвалюцыйную накіраванасць. Гэта акалічнасць, а таксама цэнзурныя цяжкасці з беларускай мовай вялі да таго, што многія творы вядомых і невядомых нацыянальных аўтараў так і не былі надрукаваны, зніклі ў небыцці.

Не цураўся народнай мовы і мінскі памешчык Аляксандр Ельскі (1834--1916). Гэта быў беларус польскай культуры, які хоць і ў старым узросце, але звярнуўся да беларускай справы. У 1892 годзе ён выдаў у перакладзе на беларускую мову "Пана Тадевуша" Адама Міцкевіча. Пазней безвынікова спрабаваў заснаваць беларускае выдавецтва. Тым не менш, у другой палове 90-х гадоў Ельскаму неяк удалося надрукаваць у Пецярбургу на беларускай мове вершаваную аповесць "Сынок", некалькі брашур для народа "Слова аб праклятай гарэлцы", "Аб жыцці і смерці п'яніцы" і іншыя.

**ЮНАЦКІ АСЯРОДАК БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.** Захавальнікамі бацькоўскай мовы выступалі вучнёўскія і студэнцкія гурткі беларускай моладзі, якая пад уплывам этнаграфічных даследаванняў Беларусі пачала ўсё больш цікавіцца пытаннямі нацыянальнай культуры. У пошуках адукацыі беларускія студэнты рассыпаліся па

130

свеце. Аднак адарванасць ад радзімы ніяк не перашкаджала ім трымаць з ёю сувязь. Беларускія студэнцкія гурткі паўсталі ў канцы XIX стагоддзя ў Петраградзе, Маскве, Варшаве, Кіеве, Парыжы, Кракаве, Адэсе, Харкаве.

Маскоўскія студэнты зарганізаваліся, седзячы ў Бутырскай турме за ўдзел у антыўрадавых выступленнях. У ліку арганізатараў быў і Антон Лявіцкі, будучы беларускі пісьменнік. Гурток не распаўся і пасля выхаду студэнтаў на волю. Вынікам яго працы быў беларускамоўны пераклад і выданне апавядання "Сігнал" рускага пісьменніка У.Гаршына. Створаны ў 1902 годзе па ініцыятыве В.Іваноўскага пецярбургскі гурток студэнтаў з Беларусі пад назвай "Беларуская Рэвалюцыйная Партыя" выдаў на гектографе літаратурныя зборнікі "Калядная пісанка" і "Велікодная пісанка" ды ўжо вядомую нам кніжку Янкі Лучыны "Вязанка". Члены гэтага гуртка браты Іваноўскія, Алесь Бурбіс і іх аднадумцы ў сябе на радзіме, у вёсцы Лябёдка Лідскага павета, выдалі на гектографе беларускую газету "Свабода". Але ёй было наканавана кароткае жыццё. Ужо тыраж першага нумара пад націскам бацькі Іваноўскіх прыйшлося знішчыць. Захавалася ўсяго два паасобнікі.

Так беларуская мова патроху прабівала сабе дарогу з сялянскіх хат да інтэлігенцкіх пакояў.

### 17.3. Прываблівасць роднага краю

**АРХІТЭКТУРА.** Гарадское будаўніцтва на Беларусі кантралявалася расійскай

131

адміністрацыяй. Буйнейшыя гарады з непазбежнасцю набывалі адзнакі індустрыялізацыі: чыгуначныя вакзалы, заводскія коміны, шматпавярховыя камяніцы, дзелавыя добраўпарадкаваныя цэнтры і брудныя пралетарскія ўскраіны. З'яўляліся конна-чыгуначныя дарогі (конкі) і трамваі. Здавалася, што ўсё гэта было чужынскім і прызначалася для рускіх, яўрэяў, палякаў і толькі не для беларусаў, якія складалі ў 1897 г. усяго каля 17 працэнтаў мясцовых гараджан і былі слаба прадстаўлены ў гарадскіх вярхах.

Толькі гэта не так. Усё, што ўзнікала на нашай зямлі, належала ўсім яе жыхарам. Яны былі спадкаемцамі яе багаццяў. Хто б ні будаваў гарады, ён не мог не ўлічваць мясцовыя культурныя традыцыі, асаблівасці мясцовага рэльефу, прыроды. Тым больш, што ў гэты час у архітэктуры назіраўся адыход ад рускага класіцызму і ўсталяванне стылю эклектызму, які дапускаў выбар архітэктурных форм з мінулых эпох. Няхай хараство нашай зямлі ўвасаблялі ў грамадзянскай архітэктуры і не беларусы, а прадстаўнікі іншых народаў, -- усё роўна іх творы не могуць быць для нас чужымі. Мы павінны ўспрымаць і берагаць усё, што засталося на нашай зямлі, як сваё.

**ЖЫВАПІС.** Яму мала што спрыяла на Беларусі. На ўвесь край толькі ў Вільні існавала рысавальная школа, якая давала пачатковыя прафесійныя навыкі. Трагедыя вялікага мастака Беларусі Казіміра Альхімовіча (1840--1916) была ў тым, што ён усведамляў свае карані, але не меў магчымасці працаваць на радзіме. Да 1869 г.

132

наш зямляк адбываў ссылку ў Сібіры за ўдзел у паўстанні Каліноўскага. Потым -- вучоба ў Варшаве, Мюнхене, праца ў Францыі, а з 1878 г. -- зноў Варшава, дзе Альхімовіч выкладае малюнак у школе жывапісу. Аднак усёй сваёй творчасцю мастак быў звязаны з Беларуссю. Сусветную вядомасць яму прынеслі палотны, дзе ўвасабляўся гістарычны лёс беларускага і літоўскага народаў. Сусветную вядомасць мела карціна "Пахаванне Гедыміна".

Беларускі мастак Нікадзім Сіліванові́ч (1834--1919) паходзіў з дзяржаўных сялян Вілейскага павета, але вучыўся і працаваў у Пецярбургу. Там ён удзельнічаў у стварэнні мазаічнага пано "Тайная вячэра" для галоўнага іканастаса Ісакіеўскага сабора. Але сялянскага сына, набыўшага годнасць акадэміка мастацтваў, нязменна цягнула ў родную вёску Цынцавічы. Родная зямля давала мастаку сюжэты для яго бытавых карцін і партрэтаў. Вялікага майстэрства дасягае жывапісец у карціне "Пастух". У вобразе селяніна адлюстроўваецца векавы прыгнёт, бяспраўе і смутак беларусаў за лёс сваёй Бацькаўшчыны.

Ігуменскаму дваraніну Апалінару Гараўскаму (1833--1900), вядомаму майстру пейзажнага жывапісу, таксама прыходзілася працаваць пераважна ўдалечыні ад Беларусі. Але толькі краявіды роднай зямлі натхнялі яго на ўзнёслую творчасць, якая прыносіла поспех. Мастак з замілаваннем увасабляў на сваіх палотнах беларускія балоты, ліпы, вячэрняе неба ("Вечар у Мінскай губерні"). Акрамя пейзажаў Гараўскі піша і партрэты. Карціна "Старая моліцца", на

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

133

якой адлюстроўваўся вобраз ціхай, забітай і пакорлівай беларускай жанчыны, рабіла на гледачоў моцнае ўражанне і сваім псіхалагізмам і майстэрствам выканання. Яе высока цаніў рускі мастак Ілья Рэпін, які адзначаў, што твар старой напісаны з порамі на скуры.

Беларуская зямля, яе гісторыя, людзі не пакідалі абыякавымі польскіх мастакоў Станіслава Віткевіча і Юльяна Фалата, рускага жывапісца Івана Трутнева, які кіраваў Віленскай рысавальнай школай, Ілью Рэпіна, які ў 90-х гадах часова жыў у Здраўневе каля Віцебска. Усе яны прысвячалі свае творы беларускаму краю.

**ТЭАТРАЛЬНАЕ МАСТАЦТВА.** У другой палове XIX ст. толькі рускі тэатр атрымаў у нас права на існаванне. Урад не шкадаваў сродкаў на ўзвядзенне ў губернскіх гарадах тэатральных будынкаў. У Мінску і Магілёве яны захоўваюцца і зараз. На тэатр ускладалася русіфікатарская місія. Аднак насуперак разлікам вялікадзяржаўных шавіністаў вядучым у тэатральным мастацтве стаў дэмакратычны накірунак. Ён жыватворна ўплываў на фарміраванне прагрэсіўнага светаўспрымання і духоўнасці мясцовай інтэлігенцыі. Інакш і не магло быць, бо да таго вымушала беларуская культурная традыцыя. Беларуская зямля як бы не прымала нічога рэакцыйнага і шавіністычнага. У рускамоўнай форме тут маглі ўжыцца толькі агульначалавечыя каштоўнасці. Мясцовая публіка вельмі цёпла прымала вялікую рускую актрысу М.Савіну і слыннага актора В.Далматава, якія сваю тэатральную кар'еру пачыналі ў 1869 г. на мінскай сцэне. Вельмі блізкай да беларускага ўспрымання была ўкраінская драматургія, якую дэманстра-

134

валі ў беларускіх гарадах трупы М.Старыцкага і М.Крапіўніцкага. Гастролі тэатральных калектываў з Расіі і Украіны былі добрым прыкладам для стварэння і на Беларусі нацыянальнага прафесійнага тэатра.

Так жылі беларусы ў гады царскай рэакцыі і, як маглі, зберагалі сваю этнічную адметнасць. Яны ўключаліся ў працэс самапазнання і самаўсведамлення сябе як самастойнага народа. У нас не было сваёй дзяржавы, але заставалася родная зямля і родная мова, якія лучылі, натхнялі на творчую працу і давалі надзею на нацыянальнае адраджэнне.

## 19. НАРАСТАННЕ ПАЛІТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ

На рубяжы XIX і XX стагоддзяў Расія ўступіла ў востры палітычны крызіс. Абсалютная манархія перажыла свой век і стала ўпоперак дарогі на шляху да грамадскага прагрэсу. Неабходнасць знішчэння царызму аб'ядноўвала нацыянальна прыгнечаныя народы з прагрэсіўнай часткай рускага насельніцтва. А што далей? Новая імперыя без цара ці дзяржаўная незалежнасць кожнай нацыі?

### 19.1. Перад выбарам новай ідэалогіі

**СУТНАСЦЬ МАРКСІЗМУ.** У тыя часы шмат хто лічыў, што выхад з крызісу Расіі даваў марксізм. Заснавальнік новага вучэння Карл Маркс, сын нямецкага адваката, у аснову сваёй

135

дактрыны клаў ужо вядомую сацыялістычную ідэю. У адпаведнасці з ёй вызначаліся сродкі дасягнення грамадства сацыяльнай роўнасці. Стаўка рабілася на прамысловых рабочых. Меркавалася, што арганізаваныя ў палітычную партыю, гэтыя рабочыя ўзнімуць народ на барацьбу, захопяць уладу ды зробяць усіх аднолькава багатымі ці аднолькава беднымі. Гэта быў рабочы сацыялізм. У адрозненне ад сялянскага, яго абвяшчалі навуковым. Прыхільнікі рабочага сацыялізму ці марксізму атрымалі назву сацыял-дэмакратаў.

**РАСПАЎСЮДЖВАННЕ НОВАГА ВУЧЭННЯ НА БЕЛАРУСІ.** З марксізмам беларуская інтэлігенцыя пазнаёмілася ў народніцкіх гуртках 70-х гг. Потым на Беларусь пачаў распаўсюджвацца ўплыў польскай марксісцкай партыі "Пралетарыят", якую ў 1882 г. стварыў Людвік Варыньскі. Крыху пазней тут завязаліся сувязі з рускай марксісцкай арганізацыяй "Вызваленне працы", якую ў 1883 г. заклаў за мяжой Г.В.Пляханаў.

Расійскія рэвалюцыянеры праяўлялі нецярплівасць у ажыццяўленні сваіх сацыялістычных ідэалаў. Спадзяванне на сялянства правалілася. Г.В.Пляханаў даказваў, што Расія не можа перайсці да сацыялізму, мінуўшы капіталізм. А новае вучэнне прапаноўвала "аб'ектыўна дзеючыя законы гісторыі", якія ўсё роўна, незалежна ад свядомасці людзей, вядуць туды, куды трэба, і ў канчатковым выніку "праб'юць сабе дарогу" да сацыялізму. Таму рускія народнікі не маглі не ўхапіцца за марксізм. Яны пераходзілі на яго пазіцыі і заклікалі да гэтага мясцовых рэвалюцыянераў.

136

**МАРКСІЗМ ЦІ НАЦЫЯНАЛІЗМ!** Чаму важна было ўсю палітычную апазіцыю зрабіць марксісцкай? Справа ў тым, што ў Расіі яна была шматнацыянальнай, а марксізм патрабаваў пралетарскага інтэрнацыяналізму. На практыцы гэта азначала, што рэвалюцыйнае прадстаўніцтва нацыянальна прыгнечаных народаў павінна было адмовіцца ад сваіх нацыянальных інтарэсаў і поўнасцю падпарадкавацца рускаму партыйнаму цэнтру. Справа нацыянальнага вызвалення аддавалася б у рукі рускіх рэвалюцыянераў, якія абяцалі дыктатуру цара замяніць дыктатурай пралетарыяту, а фактычна дыктатурай марксісцкай партыі. Дзеля чаго? Каб зрабіць жыццё лепшым? А можа дзеля таго, каб захаваць цэласнасць Расійскай імперыі і панаваць у ёй па прыкладу царскай камарыллі? Марксізм у сваім рускім варыянце па сваёй сутнасці быў вучэннем імперскім, антынацыянальным. Ён прывёў у далейшым да таго, што лёс Расіі апынуўся ў руках дэнацыяналізаваных элементаў (рускіх, яўрэяў, грузін, армян і іншых), якія ледзь не загубілі нацыянальнае жыццё ў вялікай краіне.

Але ў канцы XIX ст. пачварныя вынікі марксізму яшчэ ніхто не мог прадбачыць. А альтэрнатыўны шлях аб'яднання ўсіх антыцарскіх сіл не на пралетарскай, а на нацыянальнай аснове здаваўся неверагодным. Ідэя добраахвотнага пагаднення нацый аб барацьбе за ліквідацыю рускай імперыі і за дасягненне палітычнай незалежнасці тады не ўзнікала. Свядома ці падсвядома стаўка рабілася на цэнтралізаванае фарміраванне пралетарскай арміі дзеля барацьбы за ператварэнне царскай імперыі ў імперыю сацыялістычную і пашырэнне яе межаў да сусветных маштабаў.

АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ

# ЁН ДАРЫЎ СЯБРОЎСТВА...

А ў цэлым я не помню, каб яму так ужо моцна былі патрэбны мае веды пра паўстанне. Ён і сам усё ведаў выдатна, дзе з кніг і з дакументаў, а дзе, здагадваюся, проста апрыёры, спасцігаючы ісціну ашаламляльнай мастакоўскай інтуіцыяй. Прынамсі, мне так здавалася. Важней, мабыць, было тое, што мы былі аднадумцамі ў ацэнцы паўстання. У тыя часы ў нашай навуковай гістарычнай літаратуры быў пашыраны погляд на падзеі 1863 года як на сялянскае паўстанне супраць памешчыкаў, гэта быў нібыта прамы працяг сялянскіх бунтаў пасля рэформы 1861 года. Караткевіч жа бачыў у паўстанні складаную з'яву, дзе надзвычай важную ролю адыгрывалі шляхецкія рэвалюцыянеры. Шляхецкі вызваленчы рух і стыхійны сялянскі не заўсёды аб'ядноўваліся, нярэдка супярэчылі адзін аднаму. Так і паказваў Караткевіч тыя падзеі ў рамане "Каласы пад сярпом тваім". Я таксама, працуючы ў Вільнюсе над архіўнымі матэрыяламі, пераканаўся, што факты ў сваёй сукупнасці супярэчаць прынятаму погляду на паўстанне. Але стары погляд яшчэ не толькі трымаўся -- панаваў непарушна. Таму раман Караткевіча ішоў з вялікімі цяжкасцямі. Многія лічылі, што раманіст занадта яскрава распісаў у творы шляхту, аддаў ёй перавагу і абдзяліў у гэтым сэнсе сялян.

У 1965 годзе быў надрукаваны часопісны варыянт рамана, але кніга ўсё яшчэ ішла са скрыпам. Прэтэнзій да раманіста было шмат. Многіх раздражнялі або насцярожвалі і толькі што прыведзеныя акалічнасці, і сама манера аўтара, вельмі яркая, індывідуальная, рамантычная. Ды і гістарычная проза ўвогуле на Беларусі тады была навіной. Словам, адбывалася ўсё тое, што бывае з наватарскімі творамі. Галоўная цяжкасць заключалася ў самой навізне і нязвыкласці рамана.

Мне давялося прысутнічаць і нават выступіць на абмеркаванні рукапісу рамана ў Саюзе пісьменнікаў. Зала пасяджэнняў на другім паверсе колішняга пісьменніцкага дома на вуліцы Энгельса была перапоўнена. Выступілі многія. Ніл Гілевіч цікава гаварыў пра рамантычную манеру Караткевіча. Алесь Адамовіч падтрымаў накірунак яго творчасці, сказаў, што Караткевіч як мастак здзейсніў прарыў (помню якраз гэта слова) у гісторыю свайго народа. Былі рэверансы, былі закіды. Рэверансаў больш. А ў цэлым гэта была дыскусія без адназначных вынікаў.

Пасля абмеркавання мы, некалькі чалавек, адправіліся да Караткевіча дамоў. Ідучы за Валодзем, я бачыў, як цяжка ён ступае. Нялёгка, падумалася, табе, браце, усё гэта даецца.

Аднойчы ён з'явіўся ў Вільнюсе нечакана ў разгар лета і адшукаў мяне ў архіве на Добрай радзе. Прыйшлося адпрасіцца (або збегчы?) з работы, і мы, прыдбаўшы ў бліжэйшай краме сякой-такой правізіі, паджгалі ў недалёкі парк Вінгіс (панашаму Закрэт). Парк цудоўны і па магутнасці расліннага царства (чамусьці хочацца ўжыць якраз гэта слова) ні ў якое параўнанне не ідзе з даволі-такі чэзлым і вытаптаным мінскім паркам Чэлюскінцаў. Да таго ж у Закрэце шмат глухіх мясцінак, дзе ніхто не замінае. Мы ляжалі на траўцы, глядзелі на магутныя ствалы хвояў, ускінутыя ў неба. Нібы нетутэйшыя казачныя асілкі-секвоі атулілі нас сваёй засенню. Было па-маладому хораша. Валодзя гаварыў, які цудоўны свет і як жахліва, што ўся гэта краса ў адзін момант можа праваліцца ў тартарары, што нечая рука можа цягнецца ўжо да страшнай кнопкі...

Потым дома (я жыў тады з маці і братам у невялікай, але даволі светлай квадратнай келлі былога кляштара бенедыкцінак на вуліцы Гедрыса, літаральна ў некалькіх кроках ад месца апошняга зняволення Каліноўскага) маці частавала нас такімі смачнымі ў спёку халоднымі бурачкамі.

З'явіўся з работы брат, і мы адправіліся купацца на пляж Валакампяй. Валодзя быў там ці не ўпершыню, з цікавасцю паглядаў на ідылічны -- як на старых палотнах -- пейзаж на тым баку ракі Нерыс (так у Літве называецца наша Вілія) з невялікім старадаўнім вельмі маляўнічым кляштарам над самай вадою (тады там была, здаецца, турбаза). На вадзе Валодзя трымаўся някепска і, хоць пачаў ужо паўнець, у ахвоту сплаваў на той бок і назад. Помніцца, брат мой (таксама Валодзя) усё дурасліва палохаў нас сваімі прапановамі зрабіць масаж. Рабочыя рукі ў яго як абцугі, і гэта было вельмі балюча.

Вечарам адшукаў нас Мальдзіс, які прыехаў з групай кіношнікаў, што здымала па сцэнарыю Караткевіча дакументальны фільм пра старадаўнюю архітэктуру. Заначавалі мы ўтраіх у пустой кватэры Мальдзісава прыяцеля Чэся Мекіна недзе за чыгункай (гаспадар быў у начной змене). Назаўтра пахадзілі па старому гораду, агледзелі славутыя Святаянскія муры, пабывалі ва ўсіх універсітэцкіх дворыках, пакланіліся непаўторнай красе святой Ганны. Валодзя то станавіўся сур'ёзным, то жартаваў і залівіста рагатаў, як ён умеў (гэтую адметную караткевічаўскую рыску, калі не памыляюся, недзе трапна занатаваў і Уладзімір Калеснік). Зайшла размова, чаму старадаўнія будынкі такія моцныя, і Валодзеў анекдот пра наіўных разанцаў, якія на загад начальства даставіць на будоўлю яйкі, прывезлі яйкі, звараныя ўкрутую, выклікаў нежартоўную спрэчку, бо нехта з кіношнікаў аказаўся якраз з Разані і пакрыўдзіўся.

У адзін з прыездаў я пазнаёміў Валодзю з вельмі цікавым чалавекам, старым літоўскім дзеячам Домасам Кучынскасам. Па ўзросце ён гадзіўся нам у бацькі, але душу захаваў маладую. Недзе ў канцы 20-х гадоў Кучынскас быў арыштаваны жвальгібай (тайнай паліцыяй) за друкаванне рэвалюцыйных газет і лістовак. Была вельмі гучная справа. Маладога рэвалюцыянера прысудзілі да расстрэлу, але ў выніку дэманстрацый пратэсту расстрэл замянілі пажыццёвай турмой, з якой яго вызваліла ў 1940 годзе новая ўлада. Тады ж ён рамантычна пасябраваў і ажаніўся з расіянкай, прысланай на работу ў Каўнас. У вайну жонка не паспела выехаць. Пра яе трагічны лёс Кучынскас даведаўся толькі пасля вайны. Словам, яго жыцця хапіла б не на адзін раман. У свой час ён займаў у рэспубліцы даволі важныя пасады, а цяпер на пенсіі падрабляў у Архіўным упраўленні на кадрах. Ён шмат расказваў цікавага са свайго жыцця, выдаў некалькі кніжак успамінаў, адна называлася "У камеры смертніка". Чалавек вялікай дабрыні і далікатнасці, ён дазваляў мне называць сябе "Дзядзькам Дамінікам". Дык вось Караткевіч і Кучынскас пазнаёміліся і вельмі спадабаліся адзін аднаму. З намі аказаўся тады яшчэ адзін літоўскі паэт, таварыш Караткевіча па маскоўскіх літаратурных курсах. Дык той якраз быў неяк[illegible] ў гуморы, а Караткевіч зу[illegible] зачараваў Кучынскаса, і ён казаў пасля:

-- Як прыедзе той беларускі пісьменнік, ты мяне абавязкова пакліч.

Улетку 1971 года неўзабаве пасля жаніцьбы мы з жонкай прыехалі ў Мінск паглядзець горад. У Адама Мальдзіса сабралася "нявелькая, але бардзо пажондная кампанія". Былі, помніцца, Янка Брыль, Алег Лойка, Янка Саламевіч. Быў і Валодзя з маці Надзеяй Васільеўнай і жонкай Валянцінай. Валодзя паводзіў сябе шумна і ўсё даваў смешныя наказы то мне, каб не крыўдзіў жонкі, то Яніне, каб не крыўдзіла, барані Божа, мужа. І ўсё прыдумваў, што ён зробіць з крыўдзіцелямі. Але адчуваўся ў яго шумнасці ўжо нейкі надрыў.

Неўзабаве я ўладкаваўся на работу ў Інстытут літаратуры, а ўвосень 1972 года перабралася ў Мінск мая сямейка. Мы сталі сябраваць сем'ямі, тым больш, што Яніна ў хуткім часе даволі блізка сышлася з Валодзевай Валянцінай. Валодзя з Валянцінай часта бывалі ў нас у маленькай кватэры на Сурганава, калі яна звалася яшчэ Друкарскай, а апошнім часам у больш прасторнай кватэры на вуліцы Леніна. Гэтую кватэру, дарэчы, усяляк дапамагаў нам агораць Караткевіч, яшчэ раз паказваючы сваю таварыскую ўвагу і дабрыню. На наваселле, якое супала з маёй круглай датай, падарылі нам Караткевічы са сваіх багатых запасаў розных цікавых рэчаў аленевы рогі, якія цяпер упрыгожваюць нашу прыхожую, і даволі вялікі партрэт Каліноўскага вугалем, які зараз, калі я пішу гэтыя радкі, вісіць над маім сталом. На адвароце прыгожы надпіс цвёрдай Валодзевай рукой:

"Дарагому сябру Генадзю Кісялёву дорым гэты партрэт работы беларуса-вільняніна дзядзькі Пётры Сергіевіча. Партрэт Кастуся, для памяці якога ты за свае 50 год зрабіў болей за ўсіх (прымем гэта за юбілейны камплімент, якія Караткевіч шчодра раздаваў направа і налева. — **Г.К.**)

Хай у новай хаце свеціць табе святло ягоных вачэй. Хай добра табе працуецца пад ягоным позіркам". Потым подпісы: Валянціна Караткевіч, Уладзімір Караткевіч -- і дата: 28 сакавіка 1981 г.

Бог ты мой! Ян нядаўна ўсё гэта было! Чаму вы так рана пайшлі? Дзякуй вам, мілыя, за тое, што вы былі...

За апошняе дзесяцігоддзе жыцця Караткевіч спазнаў сапраўдную славу і папулярнасць. Добра пайшлі яго кніжкі, не толькі на Беларусі, але і ў Маскве, у іншых рэспубліках, а таксама за мяжою. (У Мінску -- не магу не адзначыць -- яму з адкрытай душой усяляк спрыяў, даваў дарогу тагачасны дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міхаіл Фёдаравіч Дубянецкі). Кінафільмы, пастаўленыя па яго творах, атрымлівалі ганаровыя прызы, яго творчасцю вельмі цікавіліся музыканты і дзеячы тэатра. Мастакі лічылі за гонар для сябе напісаць партрэт папулярнага пісьменніка або праілюстраваць яго творы.

З'явіліся някепскія грошы. (Трэба сказаць, што ў яго раней траплялісяпрацяглыя перыяды безграшоўя, калі яны жылі толькі на Валянціліну зарплату, а яшчэ раней, прыязджаючы ў Вільнюс, яму здаралася перахопліваць невялікія сумы нават у мяне. Для гісторыі зазначу -- вяртаў ён бездакорна, што не заўсёды ў нас прынята. Я б назваў яго ў гэтым сэнсе сапраўдным рыцарам карэктнасці, па-руску кажучы, щепетильности). Яны стварылі з Валянцінай цікавы, гасцінны, адкрыты для добрых людзей дом, які перабачыў многа не толькі нашага брата, але гасцей з Масквы, Украіны, Латвіі, Арменіі, Польшчы, Чэхаславакіі (тады яшчэ Чехаславакіі) і г.д. і г.д. У яго было шмат удзячных чытачоў у розных кутках зямлі, якія слалі яму розныя рамантычныя дзіковіны. Ён і сам з Валянцінай любіў падарожнічаць і заўсёды прывозіў не толькі ўражанні, але і розныя цікавосткі. Так што дом з цягам часу ўсё больш і больш нагадваў нейкі дзівосны музей, вельмі прываблівы для сяброў і гасцей.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 33.**

*ЛІСТ АД СВАЯКОЎ Уладзіміра КЛІШЭВІЧА*

# НЕ ПАСПЕЎ РАСКАЗАЦЬ...

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы".

Мы прачыталі ў газеце ад 10 сакавіка 1994 года артыкул пад назвай "Нават пушчы ад болю галосяць", у якім напісана пра Уладзіміра Клішэвіча.

Вялікае дзякуй за тое, што не забываеце пра людзей, пакрыўджаных Радзімай, незаслужана і жорстка, без усялякай на тое віны. Такіх загубленых душ у нас былі мільёны -- сумленных, працавітых, высокамаральных, якія моцна любілі сваю Бацькаўшчыну.

Уладзімір Клішэвіч -- гэта выдатны чалавек, які пражыў сваё жыццё сумленна, з вялікай крыўдай на незаслужанае пакаранне, пастаянна марачы вярнуцца на Беларусь. Ён пастаянна і ўпарта чакаў перамены сталінскага, хрушчоўскага, брэжнеўскага рэжыму, ды так і не дачакаўся. Ён цаніў не толькі Радзіму ўвогуле, але і Савецкую радзіму. Я ў жыцці не сустракаў такіх людзей, якія б любілі Беларусь больш за яго. Ён любіў прыроду Беларусі, яе людзей, беларускую мову. Я гэта пішу ўпэўнена таму, што я яго ведаў больш за іншых. Клішэвіч быў маім шваграм. Яго жонка, Марыя Міхайлаўна, і мая жонка, Вольга Міхайлаўна, родныя сёстры. Уладзімір Сідаравіч прыязджаў у Савецкі Саюз два разы: у 1972 годзе з сынам Сяргеем, тады ён быў у Мінску. Прыязджаў летам 1974 года, калі ехаў на Каўказ падлячыцца. Вось у гэтым, 1974 годзе, я з ім сустракаўся ў Маскве ў гасцініцы "Берлін". Ён скардзіўся на моцны боль ў паясніцы, дрэнна слухаліся яго ногі. Ён мне гаварыў, што, пражыўшы ў ЗША 30 гадоў, так там і не прывык, яго пастаянна цягнула дамоў, у Беларусь. Ён хацеў яшчэ сумленна паслужыць ёй, але смерць абарвала мары і "сны залатыя".

Жонка яго Марыя Міхайлаўна яшчэ жывая. Пачынаючы з 1969 года, яна ў 2--3 гады адзін раз прыязджала ў Маскву. У Маскве жыла яе маці Ганна Міхайлаўна і дзве сястры. Апошні раз Марыя Міхайлаўна прыязджала ў Маскву і да нас у Віцебск у кастрычніку 1992 года. Абяцала яшчэ прыехаць. Ёй ужо 76 гадоў. Калі прыязджала да нас, заўсёды расказвала аб выдатных якасцях Уладзіміра, яго дабрыні, розуме і сумленнасці. Якое супадзенне: з Марыяй Міхайлаўнай я разам скончыў Беліцкі сельгастэхнікум у 1938 годзе (у Сенненскім раёне), дырэктарам якога ў той час быў усім вядомы чалавек -- Лабанок Уладзімір Елісеевіч. Тоесёе я яшчэ даскажу пра сям'ю Клішэвічаў. Як не цяжка ім жылося на чужыне з мовай, працай, але яны выгадавалі 3-х сыноў. Валерый -- інжынер, архітэктар, мастак, Аляксей -- урач, гематолаг. Малодшы, Сяргей, -- урач, хірург. Сяргей завёў сваю справу -- адкрыў пакуль невялікую бальніцу, у якой лечыць людзей з хранічнымі захворваннямі касцей. Марыя Міхайлаўна дапамагае яму весці бухгалтарскія рахункі. Валерый і Аляксей працуюць у фірмах. Марыя Міхайлаўна яшчэ бадзёрая. Займаецца гімнастыкай. Выдатна водзіць машыну. Нам з Воляй па 75 гадоў, а мы сябе адчуваем зусім слабымі. Маці Марыі і Волі памерла ў Маскве ў 1983 годзе ва ўзросце 93 гадоў. Муж Ганны Міхайлаўны памёр рана, у 1935 годзе, і яна адна выгадавала шасцёра дзяцей. Мая цешча Ганна Міхайлаўна была чалавекам добрай душы. Мы разам з ёй пражылі 10 гадоў. Ганна Міхайлаўна ніколі не крыўдзіла ні словам, ні ўчынкам не толькі сваіх, але і чужых людзей. У вайну Ганна Міхайлаўна на сваім хлебе ўтрымлівала партызанскую сям'ю, за што паліцэйскія забралі ўсю яе маёмасць і спалілі дом. Яна пабудавала сабе зямлянку ў вёсцы Вялікае Сяло Сенненскага раёна і пражыла ў ёй, пакуль яе дачка Воля не забрала да нас у Свір. Ганна Міхайлаўна была жанчынай непісьменнай, але ў 1951--52 гадах за дзве зімы, ужо ва ўзросце больш як 60 гадоў, навучылася пісаць і чытаць. Вольга Міхайлаўна, яе дачка, заслугоўвае таксама вялікай павагі. У час вайны яна працавала ў падполлі разам з Канстанцінам Заслонавым. Потым была партызанкай 16-й Смаленскай брыгады. Прайшла Ушацкую блакаду вясной 1944 года. Адзначана 9-ю ўрадавымі ўзнагародамі. Цяпер мы абодва на пенсіі, з'яўляемся інвалідамі Айчыннай вайны II групы.

У сваім жыцці мы многа і сумленна працавалі, плацілі за нашу працу мала, а трэба было пасля вайны пачынаць жыццё на голым месцы, як гавораць у народзе.

Цяпер і нам даводзіцца быць пакрыўджанымі. Галоўным чынам у маральным плане. Мараль сваю мы не страцілі. Нас, удзельнікаў Айчыннай вайны, абвінавачваюць, што мы нібыта абаранялі не тое, што трэба было абараняць, што нібыта гэта мы прывялі да такой дзікай сітуацыі, развалу Саюза. Вялі да гэтага не мы -- простыя людзі, вялі да гэтага нашы правадыры.

Уладзімір Сідаравіч яшчэ збіраўся напісаць кнігу аб сталінскіх лагерах смерці, пра гэта ён мне гаварыў, але не паспеў...

Пакуль усё.

Будзьце здаровыя і шчаслівыя.

З вялікай да вас павагай
**Цімафей МАХАНЬКОЎ і мая жонка Вольга ШАФРАНСКАЯ.**
Віцебск.

# ВЯЛІКАМУ СЫНУ ПАЛЕССЯ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Разгубіўшыся, я апісаў усе перашкоды як агульнага, так і асабістага парадку і рэкамендаваў адмяніць рашэнне аб пачатку паўстання. Аказалася, што зрабіць гэта ўжо немагчыма. Тады я прыняў іх просьбу".

У глухіх лясах паблізу Антопаля Траўгут, які прыняў псеўданім Кракоўскі, разбіў лагер, пачалася ўзмоцненая падрыхтоўка атрада да баявых дзеянняў. Паўстанцы, успамінаў Траўгут, "актыўна выконвалі мае загады, бо разумелі, што ім неабходна стаць салдатамі за якія-небудзь паўмесяца, а то і некалькі дзён". Сапраўды, ужо праз два тыдні атрад прыняў першыя баі. Паўстанцам спадарожнічаў поспех. Тройчы ў маі атрад прымаў бой паблізу вёскі Горкі.

На пошукі паўстанцкага атрада была адпраўлена калона стралкоў і казакаў пад камандай капітана Кярноўскага. У колькасных адносінах яна пераўзыходзіла атрад Траўгута ненамнога, але гэта былі абучаныя, добра ўзброеныя салдаты царскай арміі. Траўгут размясціў свой атрад наўсцяж балота. Паўстанцы замаскіраваліся. Яны далі праціўніку магчымасць узысці на грэблю і затым па камандзе адкрылі агонь. Паражэнне ворага было поўнае.

Поспех натхніў атрад і яшчэ больш умацаваў аўтарытэт камандзіра. Траўгут разумеў, што царскае камандаванне не пакіне яго ў спакоі. Яму было зразумела таксама, што паўтараць бой на тым жа самым месцы нельга: праціўнік будзе ўжо напагатове. Ён перавёў атрад у іншы лес, таксама непадалёку ад Горак.

На гэты раз царскае камандаванне рушыла супраць Траўгута больш трох рот стралкоў, сотню казакаў і дзве гарматы. Гэтай калонай камандаваў палкоўнік Эрыгберг (паводле іншых крыніц -- Ігельштром). Царскі палкоўнік, які яўна перабольшваў сілы паўстанцаў, не адважыўся выдаць загад атакаваць і абмежаваўся перастрэлкай. Калі ж на фланг царскага атрада прабралася група добраахвотнікаў-паўстанцаў, (а іх было ўсяго чатырнаццаць чалавек) і адкрыла агонь, палкоўнік паспяшаўся адступіць. Удалы выбар пазіцыі і на гэты раз быў заслугай Траўгута. Але суадносіны сіл былі не на карысць паўстанцаў. Страты з абодвух бакоў у перастрэлцы былі невялікія, але поспех бою цалкам быў на баку паўстанцаў.

Царскае камандаванне ўстрывожылася не на жарт. Супраць Траўгута былі накіраваны ўсе наяўныя ў гэтым раёне сілы -- чатыры роты пяхоты, дзве сотні казакаў пры дзвюх гарматах. Камандаванне прыняў генерал Эгер. Тым часам Траўгут прадпрыняў для дэзарыентацыі дваццацікіламетровы марш і заняў пазіцыі ў шасці вярстах ад месца папярэдняга бою. Гэта быў пералесак, акружаны балотамі, праз якія праходзіла невялікая грэбля. Тут і адбыўся трэці, самы цяжкі для атрада бой. Але сілы на гэты раз былі настолькі няроўныя, што разлічваць на канчатковы поспех не даводзілася. Траўгут выбраў тактыку адступлення дробнымі групамі і назначыў месца збору атрада. Да вызначанага пункту дабраліся толькі сорак тры чалавекі. Атрад панёс цяжкія страты.

Дзён праз дзесяць пасля трэцяга бою пад Горкамі атрад Траўгута быў узмоцнены сотняй паўстанцаў з Брэсцкага павета, прыведзеных сюды Янам Ваньковічам. Траўгут атрымаў загад рухацца на паўднёвы ўсход, у паўночную Валынь. Меркавалася, што паўстанне, пачатае на Валыні, распаўсюдзіцца на поўнач, злучыцца на Палессі з паўстаннем на Беларусі. Аднак гэтага не адбылося. Частковыя поспехі, якія меў Траўгут, ужо не маглі ўплываць на хаду падзей у цэлым. У канцы ліпеня 1863 года з дапамогай Элізы Ажэшкі ён выехаў у Варшаву. Рызыкуючы жыццём, адважная жанчына адвезла Рамуальда ў сваёй карэце да граніцы Каралеўства Польскага. Траўгут з групай 20 чалавек адправіўся за Буг. Там у хуткім часе адкрылася новая і апошняя старонка яго жыцця.

2 жніўня 1863 года нацыянальны паўстанцкі атрад надаў яму званне генерала, а 17 кастрычніка 1863 года Траўгут узначаліў нацыянальны паўстанцкі ўрад і ажыццяўляў кіраўніцтва паўстаннем апошнія шэсць месяцаў. Ва ўмовах спаду меры, прынятыя кіраўніком па радыкалізацыі руху, не прынеслі поспеху. Правадыру паўстання дасталася горкая доля стаяць да канца на капітанскім мосціку карабля, які гарыць, каб завяршыць эпапею высокім трагічным фіналам. Траўгут выканаў гэтую місію з годнасцю. У турме вёў сябе, як і жыў, спакойна, мужна. Нікога са сваіх паплечнікаў не выдаў, не адмовіўся ад сваіх перакананняў. З высока ўзнятай галавой ён стаў на эшафот перад тысячамі варшавян, якія прыйшлі падтрымаць таямнічага дыктатара ў яго апошнюю хвіліну.

Пасля смерці Р.Траўгута маёнтак у Востраве зраўнялі з зямлёй па загаду Мураўёва-вешальніка.

Аднак гістарычная справядлівасць усё ж узяла верх. У 1916 годзе на адхонах Варшаўскай цытадэлі быў збудаваны вялізны крыж з цярновым вянком у памяць аб Траўгуце і яго паплечніках, пакараных там. На доме на вуліцы Смольнай у Варшаве, дзе апошні год жыў Р.Траўгут, была ўмацавана мемарыяльная дошка. Вуліцу Берга, -- ката паўстання, перайменавалі ў вуліцу Траўгута. У Львове, на Лычакоўскіх могілках, стаіць прыгожы помнік Рамуальду Траўгуту, іншым кіраўнікам паўстання 1863 года, хоць і не ў Львове пахаваны важак паўстанцаў.

У 1928 годзе помнік Траўгуту быў адкрыты ў гарадскім пасёлку Свіслачы на Гродзеншчыне, дзе ён вучыўся ў мясцовай гімназіі. Праз адзінаццаць гадоў яго разбурылі, а яшчэ праз пяцьдзесят -- аднавілі.

Вясной 1933 года ў невялікай вёсачцы Востраў Кобрынскага раёна, на месцы, дзе стаяў дом, адкуль Р.Траўгут пайшоў на паўстанне і не вярнуўся, быў устаноўлены памятны знак -- вялікі дубовы крыж, абгароджаны невялікім, па-мастацку збудаваным плотам, таксам з дуба, на мясцовым прыродным камені высечаны словы: "Рамуальду Траўгуту -- вялікаму сыну Палесся".

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**





**Гістарычнаму факультэту Беларускага дзяржаўнага універсітэта споўнілася 60 гадоў. Сімвалічна, што і дзейнасць самога універсітэта пачалася з лекцыі па гісторыі, прачытанай прафесарам Л. Канчалоўскім. Гэта не адзіны вучоны, які праславіў беларускую навуку. Справе вывучэння айчыннай і сусветнай гісторыі многія гады аддалі выкладчыкі універсітэта У. Пічэта, У. Ігнатоўскі, М. Доўнар-Запольскі, М. Нікольскі, У. Перцаў і іншыя.**

**За часы свайго існавання на факультэце падрыхтаваны тысячы спецыялістаў для сярэдніх школ, вышэйшых навучальных устаноў, вучоных. Падрыхтоўка кадраў ідзе па чатырох напрамках: гісторыя, міжнародныя адносіны, архівазнаўства, музеязнаўства. Ва ўмовах незалежнасці рэспублікі факультэт імкнецца рыхтаваць спецыялістаў, якія б мелі свой, беларускі погляд на развіццё гістарычнага працэсу, валодалі б усімі багаццямі сусветнай гістарычнай думкі.**

**НА ЗДЫМКАХ: ідуць экзамены; у музеі гістарычнага факультэта.**

**Тэкст і фота Пятра ШУПЛЯКА.**



## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## ПАВАЖАНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ!

Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі,аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, заставайцеся і надалей з "Голасам Радзімы". Кошт падпіскі на IV квартал усяго 1 200 рублёў на 1 месяц і 4 200 рублёў на 3 месяцы.

Спяшайцеся! Падпіска будзе доўжыцца да 15 верасня.

## СМЕРЦЬ ВЕКАПОМНАГА ДУБА



З'яўленне гэтага пня ўспрымаю як асабістую трагедыю. Убачыўшы здымак, пазнала возера Свіцязь, і ў душы ажылі дарагія і светлыя ўспаміны, звязаныя з гэтымі мясцінамі. Некалі, яшчэ ў школе і потым, дарослымі хадзілі пешкі і прыязджалі з Навагрудка на Свіцязь на святы, на рыбалку, а найчасцей проста, каб пабыць у цішы, на прыродзе, палюбавацца прыгажосцю ляснога возера, блукалі па лясных сцежках, што акружалі яго, дзівіліся нейкай нерэальнай празрыстасці і чысціні яго вады. Пры падыходзе да возера адным з першых нас сустракаў гэты дуб. Да яго хацелася прыхінуцца, памацаць шурпатую кару рукой: пад ім жа некалі адпачываў Адам Міцкевіч. Ад усведамлення гэтага мы здаваліся сабе нейкімі больш значнымі, бо быццам бы мелі, хай сабе і вельмі ўяўнае, але дачыненне да вялікага паэта, да даўніх і слаўных падзей, якімі праславіўся легендарны наваградскі край.

У подпісу да здымка, зробленага Э. Кабяком на месцы трагедыі, гаворыцца, што дрэва называлі дуб-патрыярх, а Якуб Колас называў яго дуб-Даніла. З ім звязаны імёны многіх народавольцаў, а Адам Міцкевіч прысвяціў яму цудоўныя паэтычныя радкі. У даўнія часы нашы продкі лічылі дуб свяшчэнным дрэвам і прыходзілі да яго маліцца з абразам. Чаму ўсе гэтыя свяшчэнныя пачуцці не валодалі тымі, хто рашыўся, не параіўшыся са спецыялістамі і з прадстаўнікамі грамадскасці, пад корань спілаваць магутнае дрэва!!

У тым, што адбылося, вінаватым сябе ніхто не прызнае. Наадварот, лічыцца, што папярэдзілі няшчасны выпадак, падобны да таго, што адбыўся два гады таму на возеры, калі загінулі двое пад паваленым дубам. Тут узнікае пытанне, а дзе ж былі адпаведныя службы раней, чаму не займаліся абследаваннем старых дрэў, пакуль не здарылася бяда. А цяпер вырашылі перастрахавацца: спілавалі унікальны помнік прыроды! І можна не здзіўляцца, калі вакол возера Свіцязь хутка знікнуць астатнія трохсот-, двухсотгадовыя дрэвы.

Д. ЧАРКАСАВА.

## ЗГУКІ ФАЛЬКЛОРНАГА ФЕСТЫВАЛЮ

Шаноўны рэдактар!

У пачатку года мы даведаліся з вашай газеты аб правядзенні І Міжнароднага фестывалю фальклору на Беларусі ў Мінску і Пінску.

Мы ўдзельнічалі ў фестывалі, выконвалі песні, якія захаваліся ад нашых дзядоў і бацькоў. Адну з гэтых песень мы прапануем дзеля друкавання ў вашай газеце. Пры станоўчых водгуках маем магчымасць дасылаць і надалей іншыя вядомыя нам песні, бо жадаем, каб іх ведалі на Беларусі.

Міжнародны фальклорны фестываль у Пінску — гэта была для нас сустрэча з суродзічамі. Мы прывезлі на фестываль песні, што захавалі нашыя бацькі, жывучы ў Маскве.

Вельмі ўдзячны Аргкамітэту за магчымасць удзелу ў фестывалі нашага невялічкага гуртка. Размаўляючы з удзельнікамі фестывалю, мы даведаліся, што нашыя песні большасці не вядомыя. Дасылаем словы і мелодыю адной з іх, запісаную па памяці дачкой выканаўцы гэтай песні Ганны Іванаўны Бабарэка.

Звяртаем увагу спевакоў на змену рытму першага такту музычнай фразы ад радка к радку. У гэтай песні-размове такім сродкам падкрэсліваецца адметнасць пачуццяў субяседнікаў. На ласкавую просьбу хлопца дзяўчына адказвае ўзрушана, адмоўна. Далей таксама спявак па чарзе змяняе рытм першых тактаў музычных фразаў 2/4 на 3/4, ці 3/4 на 2/4 у адпаведнасці з эмацыянальнай афарбоўкай радкоў.

Па даручэнню гуртка "Алеся"

Ірына КАПЧЫНСКАЯ.

Масква.

**АД РЭДАКЦЫІ:** "Голас Радзімы" не толькі падтрымлівае ініцыятыву сяброў гуртка "Алеся" і з ахвотай друкуе дасланую спадарыняй Ірынай Капчынскай песню, але звяртаецца таксама да ўсіх, хто любіць фальклор: калі ў вас ёсць забытыя ці невядомыя песні нашых продкаў, дасылайце іх у рэдакцыю. Абяцаем пазнаёміць з імі ўсіх нашых чытачоў.




Плылі гускі, плылі ціхаю вадою.
Выйдзі, выйдзі, дзяўча, размаўся са мною.
Ой, ня раз я выйшла, ня раз размаўляла.
Такі ж лайдакові праўды ня казала.
Ой, тады ж табе я ўсю праўданьку скажу,
Як сваю рučаньку дый з тваею зьвяжу.

Сталі дзяўчыненьцы ручаньку вязаці,
Сталі дзяўчыненьку сьлёзы абліваці.
Маці ж, мая маці, парадніца ў хаці,
Парадзь жа мне, маці, як нялюба зваці.
Сядай, доню, сядай за цёсавым сталом,
Назаві нялюба ясьненькім саколам.

Ляпей жа мне, маці, горкі палын піці,
Як нялюба друга саколікам зваці.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1214. Падпісана да друку 22. 8. 1994 г.